# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 41 (2495) 10 кастрычніка 1996 г.

Выдаецца з 1955 г. Цана 1000 рублёў.




Ля мінскага касцёла Святых Сымона і Алены (Чырвонага касцёла) устаноўлены помнік з надпісам: "Абаронцам Бога, Веры і Хрысціянства". Бронзавы анёл -- архангел Міхаіл -- забівае кап'ём змея: сімвал перамогі дабра над злом.

Праехаўшы праз увесь горад, скульптура засталася на плошчы Незалежнасці, благаславіўшы Мінск. Памеры яе -- 4,5 метра ў вышыню, 3 метры ў дыяметры, вага -- 3 тоны. У якасці эскіза аўтар Віктар Голубеў скарыстаў малюнак з Біблії, выдадзенай Францыскам Скарынам. Адліў з металу анёла Алег Багданкевіч. Стварэнне і ўстаноўка помніка абышліся прыкладна ў 5 000 долараў ЗША, якія ўклала ў гэтую высакародную справу адна мінская сям'я.

Асвячэнне помніка адбылося 28 верасня. Няхай жа бронзавы анёл абароніць нас!

Фота Віктара СТАВЕРА.

**УРАЖАННІ АЎСТРАЛІЙСКАГА БЕЛАРУСА**

## СПАТКАННЕ З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ ПРАЗ 50 ГАДОЎ

**Пэўна, родныя мясціны маюць прыцягальную сілу. Куды б чалавека ні закінуў лёс і як добра ні складвалася б яго жыццё, з цягам часу ўсё часцей вяртаецца ён у сваіх думках да дома, дзе аднойчы з'явіўся на свет і дзе зрабіў першыя крокі, да роднага падворка, дзе некалі гуляў з братамі і сёстрамі. Аднак здараецца і так, што як ні напружваеш сваю памяць, карціны дзяцінства расплываюцца і ніяк не паддаюцца аднаўленню. А калі гэтыя ўспаміны працягваюць турбаваць і непакоіць, нічога не застаецца, як спакаваць чамаданы і накіравацца ў краіну дзяцінства. Менавіта так здарылася з Міхасём Сасноўскім, які пакінуў Беларусь яшчэ хлопчыкам і амаль усё жыццё правёў удалечыні ад Бацькаўшчыны.**

(Заканчэнне на 5-й стар.).

*НА ВЫСТАВЕ "БЕЛАРУСКАЕ ДРЭВА"*

## ПРЫГАЖОСЦЬ АД ПРЫРОДЫ

У Таварыстве дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі размясцілася экспазіцыя рэспубліканскай выставы "Беларускае дрэва", арганізаванай Беларускім домам народных традыцый. На адкрыццё выставы сабраліся народныя майстры з Мінскай, Віцебскай, Гродзенскай, Брэсцкай абласцей, паклоннікі народных талентаў, іх сябры, госці, прэса. Быў запрошаны паэт Сяргей Законнікаў. Адкрыла выставу народная артыстка рэспублікі Беларусь Зінаіда Бандарэнка. Намеснік міністра культуры В.Гедройц ад імя ўрада рэспублікі пажадаў народным майстрам поспехаў у творчасці. Загадчык аддзела культуры Таварыства дружбы Л.Бароўскі адзначыў высокі мастацкі ўзровень прадстаўленых на выставе работ. А іх, уявіце сабе, нямала -- 250, і некаторыя ўнікальныя па арыгінальнасці матэрыялу і мастацкіх прыёмах выканання. Напрыклад, майстар па дрэву з вёскі Паперня Мінскага раёна Іван Бельскі прадставіў мэблевы гарнітур, выраблены з мудрагеліста пераплеценых каранёў дрэў. Нешта фантастычнае, казачнае ўгадваецца ў іх. Майстар чуйна падслухаў у прыроды музыку прыгажосці, што нячутна гучыць і схавана ад чалавечых вачэй, і адкрыў яе людзям. Тры гады працаваў юны майстар над мэблевым гарнітурам, каб загучала ў поўны голас гэтая прыгажосць.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

**НА ЗДЫМКУ: удзельніца выставы Алена КАТЛЯРОВА.**



**ПАКУТНЫ ШЛЯХ НА ЗАХАД**

## ВЫВАЗ МІРНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА Ў ГЕРМАНІЮ

У доўгім ланцугу злачынстваў нямецка-фашысцкіх захопнікаў на беларускай зямлі асобае месца займае насільны ўгон мірных грамадзян на фашысцкую катаргу ў Германію. У першапачатковых планах фашысцкіх правіцеляў не прадугледжвалася ў ходзе вайны выкарыстоўваць у Германіі рабочую сілу з акупіраваных тэрыторый. Выконваючы планы "маланкавай вайны", гітлераўцы разлічвалі, што яна не прынясе ім вялікіх страт, а таму ў Германіі не спатрэбіцца дадатковая рабочая сіла.

**(Працяг на 3-й стар.).**

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*Б. ЕЛЬЦЫН -- А. ЛУКАШЭНКУ*

### "СТАРЭЙШЫ БРАТ" ПАРАІЎ

Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Барыс Ельцын лічыць неабходнымі намаганні для пошуку кампрамісу і ўзаемапрымальных рашэнняў паміж Прэзідэнтам Беларусі і Вярхоўным Саветам.

Аб гэтым Барыс Ельцын заявіў у сваім спецыяльным пасланні Аляксандру Лукашэнку. Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі заклікаў свайго беларускага калегу "зрабіць усё магчымае для ліквідацыі рознагалоссяў з парламентам, весці з ім цярплівую, карпатлівую работу па знаходжанню кампрамісаў, пазбягаць абвастрэння сітуацый".

*У МЗС БЕЛАРУСІ*

### КАБ ЛЕПШ РАЗУМЕЦЬ...

У Міністэрстве замежных спраў Рэспублікі Беларусь адбылася сустрэча першага намесніка міністра Валерыя Цапкала з пасламі Вялікабрытаніі, Італіі, ЗША, Францыі і ФРГ.

У ходзе сустрэчы пасламі была падкрэслена неабходнасць захавання Беларуссю палажэнняў Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах і праве паслоў свабодна ўступаць у кантакты з прадстаўнікамі дзяржаўных і няўрадавых арганізацый і прэсы краіны знаходжання, што з'яўляецца нармальнай практыкай у рамках Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтву ў Еўропе (АБСЕ). У Беларусі гэтая практыка складвалася з 1992 года. Сустрэчы паслоў праводзяцца для абмену думкамі ў мэтах лепшага разумення краіны і пошуку шляхоў умацавання супрацоўніцтва з Беларуссю, аказання ёй эканамічнага і тэхнічнага садзейнічання.

В. Цапкала запэўніў паслоў, што іх заклапочанасць будзе даведзена да ведама кіраўніцтва дзяржавы, а таксама адзначыў, што Рэспубліка Беларусь ніколі не ставіла пад сумненне ні адно з палажэнняў Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах, заўсёды няўхільна выконвала і будзе выконваць усе яе палажэнні. Таксама было адзначана, што Беларусь выступае за ўсямернае развіццё адносін дружбы і супрацоўніцтва з усімі краінамі свету і прыкладвае ўсе намаганні для забеспячэння нармальнай дзейнасці дыпламатычных прадстаўніцтваў, уключаючы магчымасць ажыццяўляць неабходныя для гэтага кантакты і сустрэчы. Адначасова было выказана пажаданне, каб прадстаўнікі сяброўскіх дзяржаў устрымліваліся ад падтрымкі якой-небудзь адной з палітычных груп ці пунктаў погляду, якія выявіліся ў ходзе палітычнай дыскусіі, што ідзе ў краіне.

*ДА ЮБІЛЕЮ*

### УЗНАГАРОДЫ ПАСЛУ

Указам Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі пасол нашай дзяржавы ў Расіі Віктар Даніленка ўзнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Ён жа ўказам Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына ўзнагароджаны ордэнам Дружбы. Ва ўказе адзначаецца, што беларускі дыпламат унёс вялікі ўклад у развіццё супрацоўніцтва Беларусі і Расіі, ва ўмацаванне дружбы і добрасуседства паміж двума брацкімі народамі.

Сардэчна павіншаваў пасла са знамянальнай датай у жыцці -- 60-годдзем з дня нараджэння Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка.

*СКАНДАЛ*

### МІЛІЦЫЯНЕРЫ — ЗЛОДЗЕІ

Адразу 10 супрацоўнікаў аддзела аховы Савецкага РАУС Мінска трапілі за краты. Як падае газета "Звязда", міліцыянеры падазраюцца ў крадзяжы дзяржаўнай і грамадскай маёмасці з аб'ектаў, якія яны ж і ахоўвалі. Пакуль дакладна невядома, колькі фірмаў сталі ахвярамі гэтых "вартаўнікоў".

*АДЗІНЫ Ў ГЛУСКІМ РАЁНЕ*



Ульян РЫБАК (на здымку) -- адзіны Герой Савецкага Саюза ва ўсім Глускім раёне. Ён прайшоў вайну з першага да апошняга дня. Скончыў яе разведчыкам у Празе. І адразу з фронту адправіўся ў Маскву на Парад Перамогі. У 1985 годзе прымаў удзел і ў Парадзе Перамогі, прысвечаным 40-годдзю заканчэння Вялікай Айчыннай вайны.

Імем героя названа адна з вуліц у Глуску.

*БУЙНЕЙШЫ Ў ЕЎРОПЕ*




Увайшоў у строй дзеючых запраўвачны комплекс кампаніі "Лукойл-Беларусь" пад Брэстам. Размешчаны на трансеўрапейскай аўтастрадзе, ён з'яўляецца буйнейшым у Еўропе і разлічаны на абслугоўванне 1 117 машын у суткі.

Акрамя запраўкі дызельным палівам, трыма відамі бензіну, тут можна памыць запылены пасля доўгай дарогі аўтамабіль, набыць у магазіне, які ўваходзіць у комплекс, запчасткі, аўтакасметыку, сувеніры, прадукты і напіткі ў дарогу. Паставіўшы машыну на стаянку АЗС, вадзіцель можа спакойна паесці ў кафэ, выпіць кубачак кавы ў бары, пазваніць у любы пункт свету.

НА ЗДЫМКУ: агульны выгляд запраўвачнага комплексу.

*ЗБОКУ ВІДНЕЙ*

### ЯК ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСЫ

Еўрапейская камісія апублікавала параўнальныя даныя аб узроўні жыцця ў Еўропе. Сутнасць праведзеных сацыялагічных даследаванняў заключалася ў тым, каб параўнаць не тое, колькі долараў унутранага валавога прадукту прыпадае на душу насельніцтва, а які аб'ём тавараў і паслуг з вызначанай спажывецкай "карзіны" мае чалавек.

За 100 працэнтаў была прынята пакупная здольнасць сярэдняга грамадзяніна Аўстрыі. Некаторыя аказаліся больш багатымі. Сярод іх падданыя Вялікага Герцагства Люксембург, швейцарцы, бельгійцы і датчане. Усе краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы засталіся далёка ззаду нават пасля такіх дзяржаў Еўрапейскага Саюза, як Грэцыя, Іспанія і Партугалія. З дзяржаў былога сацлагера да іх набліжаюцца толькі славенцы, чэхі, венгры і славакі.

І ўжо за імі ідуць грамадзяне Расіі і Беларусі. Яны ў чатыры разы бяднейшыя за грамадзян найбольш развітых краін Еўропы, але апярэджваюць палякаў, балгар, эстонцаў, румын, літоўцаў, украінцаў, латышоў і малдаван.

Правялі даследаванне такія аўтарытэтныя арганізацыі, як Еўрапейская праграма параўнальных даследаванняў, цэнтральныя статыстычныя ўпраўленні Аўстрыі і Фінляндыі, "Еўрастат" і Эканамічная камісія ААН для Еўропы.

*ПОСПЕХ КАРДЫЯХІРУРГАЎ*

### ПА УНІКАЛЬНАЙ МЕТОДЫЦЫ

Знамянальная падзея адбылася ў айчыннай медыцыне: у Рэспубліканскім цэнтры сардэчна-сасудзістай хірургіі ўпершыню ў Беларусі праведзена таніраванне -- аперацыя на сэрцы па унікальнай методыцы.

Калі спрасціць, то сутнасць таніравання -- устаноўка спецыяльнай спіралі для расшырэння звужанага ўчастка сасуда. Такая працэдура значна таннейшая, чым звычайная аперацыя, хоць і кошт таніравання за мяжой вагаецца ад паўтары да дваццаці тысяч амерыканскіх долараў. Але галоўная перавага гэтага метаду ў тым, што пры правядзенні аперацыі не ўскрываецца грудная клетка, а выкарыстоўваецца катэтэр. Пацыенту не наносіцца вялікая траўма, і аперацыю можа перанесці нават цяжкахворы.

Асвоіць новую методыку беларускім спецыялістам дапамаглі супрацоўнікі універсітэцкай клінікі амерыканскага штата Рычманд. Гэта аперацыя праведзена ў рамках беларуска-амерыканскай праграмы кардыялагічнай дапамогі, асноўнай мэтай якой з'яўляецца укараненне ў Беларусі найлепшых тэхналогій дыягностыкі і хірургіі, а таксама паслялеперацыйнай рэабілітацыі.

*ІНЦЫДЭНТ*

### ПАЗБАЎЛЕНА АКРЭДЫТАЦЫІ

Беспрэцэдэнтнае рашэнне прыняў Вярхоўны Савет Беларусі: большасцю галасоў ён пазбавіў акрэдытацыі ў парламенце адзіную у рэспубліцы дзяржаўную нацыянальную тэлерадыёкампанію.

Белтэлерадыёкампанія "пакарана" за неаб'ектыўнае асвятленне работы сесіі ВС і невыкананне яго пастановы аб заснаванні праграмы "Парламенцкі час". Мяркуючы, што іншыя дзяржаўныя СМІ рэспублікі могуць у знак салідарнасці праігнараваць работу парламента, дэпутаты звярнуліся да кіраўнікоў расійскіх тэлеканалаў з просьбай павялічыць аб'ёмы інфармацый аб падзеях у Беларусі.

*ПАРАЛЕЛІ*

### МЫ І БАЛТЫЯ

Згодная з інфармацыяй суседзяў, у жніўні мінімальная заработная плата ў краінах Балтыі і Беларусі ў параўнанні з ліпенем крыху павялічылася, акрамя Літвы, дзе "мінімалка" не змянілася і па-ранейшаму складала 52,5 долара ЗША. У Латвіі яна склала 68,84 долара, у Эстоніі -- 55,68, а ў Беларусі -- 7,35 долара ЗША.

Трохі іншая карціна па налічанай сярэднямесячнай зарплаце. Па гэтаму паказчыку першынстве Эстонія -- 223,79 долара ЗША. У Латвіі ў дзяржсектары зарплата склала ў жніўні 203,08 долара ЗША, у Літве -- 168,61 долара ЗША. У нашай рэспубліцы, як сцвярджаюць літоўскія статыстыкі, дзяржапарат атрымліваў у сярэднім па 87,38 долара ЗША. Пры параўнанні з аналагічнымі паказчыкамі мінулага года высвятляецца, што ў Беларусі адбыўся найбольшы рост зарплаты і склаў 44 працэнты, тады як у Літве зарплата павялічылася на 26, а ў Эстоніі -- на 27 працэнтаў.

*З ВІЦЕБШЧЫНЫ*

### ЗНІКАЮЦЬ ВЁСКІ

Сем населеных пунктаў зніклі з геаграфічнай карты Віцебшчыны. У Браслаўскім раёне "зняты" з дзяржаўнага ўліку вёскі Кіжлішкі, Кардалішкі, хутары Лазоўка і Лапатніца, а ў Віцебскім -- вёскі Задзярба, Краты, Скрабава. Іх жыхары перасяліліся ў іншыя месцы, пабудовы знесены.

Змяншаецца ў апошнія гады і колькасць сельскага насельніцтва. Пры агульнай неспрыяльнай дэмаграфічнай сітуацыі, якая склалася ў вобласці, смяротнасць у сельскай мясцовасці ў цэлым удвая вышэйшая, чым у гарадах.

*ЗОНА ПАСТАЯННАГА БЕДСТВА*



Многія вёскі ў зоне адсялення пацярпеўшых ад аварыі на Чарнобыльскай АЭС Веткаўскага, Чачэрскага і Добрушскага раёнаў згарэлі ў час пажараў, якія бушавалі гэтым летам на тарфяніках. І без таго крытычнае экалагічнае становішча на Гомельшчыне пагоршылі радыенукліды, разнесеныя ветрам разам з дымам.

НА ЗДЫМКУ: на месцы адселенай вёскі пасля пажару.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ДЗІЦЯЧЫ прытулак наважыліся адкрыць гарадскія ўлады Баранавіч. У ім будуць жыць бяздомныя дзеці ва ўзросце ад трох да пятнаццаці гадоў.

СПЕЦЫЯЛЬНАЯ сярэдняя школа МУС адкрылася ў Мінску. У ёй будуць навучацца 299 курсантаў -- будучых лейтэнантаў міліцыі.

МІНСКІ трактарны завод заключыў кантракт з пакістанскай фірмай "Фекто" на пастаўку 10 тысяч трактароў маркі "Беларусь" МТЗ-510. 5 тысяч машын будуць адпраўлены ў Пакістан ужо да канца гэтага года.

ДНІ ПАМЯЦІ Тадэвуша Касцюшкі прайшлі на радзіме нашага славутага земляка. Набажэнства з гэтай нагоды адбылося ў Косаўскім каталіцкім касцёле і праваслаўнай царкве. На месца былой сядзібы Касцюшкаў удзельнікі ўрачыстасцей усклалі жывыя кветкі. Была адкрыта мемарыяльная дошка.

НАДАЦЬ Беларускаму дзяржаўнаму драматычнаму тэатру імя Якуба Коласа статус нацыянальнага -- з такім хадайніцтвам звярнуўся ў Кабінет Міністраў рэспублікі Віцебскі аблвыканкам. Нагода для гэтага ёсць -- 70-годдзе з дня заснавання тэатра.

ВЕЧАРЫНА з нагоды 60-годдзя вядомага паэта і грамадскага дзеяча Генадзя Бураўкіна адбылася 1 кастрычніка ў мінскім Доме літаратара. Выступалі сябры і прыхільнікі яго таленту. Спявалі зоркі беларускай эстрады. У канцэрце прымаў удзел Дзяржаўны аркестр пад кіраўніцтвам сгыннага М. Фінберга.

# ЗАГАДКАВЫ ГОСЦЬ ПОЛЬСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

Таямнічая сібірская старана... Колькі загадак хаваеш ты, цяжка і ўявіць. А колькі лёсаў, паяднаных, перавязаных з бясконцай Сібір'ю! Адных толькі выгнаннікаў з Еўропы -- з Беларусі, з Польшчы, з Украіны -- прайшла праз тайгу незлічоная раць. Ехалі вазкамі, ішлі ў кайданах, гінулі ў дарозе... Губляліся вязні, выгнаннікі. Зніклі бясследна людзі. Але ж у той таямнічай Сібіры была, ёсць і, пэўна ж, будзе адна надзвычайная асаблівасць агромністага краю. І вось у чым яна: Сібір выпрабоўвае, загартоўвае, дае энергію, прымушае працаваць. І нават больш -- натхняе. Мо таму Сібір, узяўшы ў палон, затрымаўшы ў высылцы, фарміравала, выхоўвала з нікому невядомых людзей вучоных-этнографаў, батанікаў, географаў, ваенных мужоў, пісьменнікаў і шмат каго яшчэ.

Сібір — другая маці для сотняў, а то і тысячаў беларусаў, ураджэнцаў Беларусі — прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў. Відаць, ужо сёння наспеў час агульнага збору матэрыялаў па тэме: "Беларусы ў Сібіры". Асобныя гісторыка-краязнаўчыя працы, што ўжо сталіся здабыткам шырокага кола чытачоў, далёка не асвятляюць гэтае пытанне. А часам -- і заблытваюць, уносячы на старонкі кніг, гістарычнай і літаратурна-мастацкай перыёдыкі многія памылкі. Будзем усё ж спадзявацца, што беларуска-сібірская гістарыяграфія пабагацее. І магчыма ў самай недалёкай будучыні.

Адна з таямнічых фігур, відаць, у роўнай ступені прыналежная і польскай, і беларускай культурам, -- Адам Шыманскі. Нарадзіўся ён 16 ліпеня 1852 года ў вёсцы Грушнева Бельскага павета, на Падляшшы (як вядома, этнічная беларуская тэрыторыя, што адышла да Польшчы, згодна з Люблінскай уніяй 1569 года) у сям'і дробнага шляхціца. У 1872 годзе Адам заканчвае гімназію ў Седльцах. А яшчэ праз пяць гадоў -- факультэт права Варшаўскага універсітэта. У гэтыя ж гады Шыманскі завязвае кантакты з рэвалюцыйнай арганізацыяй "Народны ўрад Польшчы" ў Львове і становіцца яе прадстаўніком па Расіі, Беларусі і Літве.

...У "Каментарыях" да "Гісторыі майго сучасніка" Уладзіміра Караленкі пададзена наступная біяграфічная нататка пра колішняга юнака з Падляшша (ці як яшчэ называлі гэтую старонку -- з Надбужанскай краіны): "..А.І. Шыманскі (1852--1916), польскі пісьменнік. Ініцыятар стварэння тайнай арганізацыі з цэнтрам у Варшаве. У 1879 годзе быў арыштаваны і сасланы ў Сібір, дзе жыў да 1885 года. У 1890 годзе надрукаваў два тамы нарысаў з сібірскага жыцця, якія былі прыхільна сустрэты чытачамі. Пісаў гэтаксама вершы і навелы. У апошнія гады жыцця працаваў у педагагічным выдавецтве".

Але ж за гэтай лаканічнай біяграфіяй -- багатае на падзеі, перажыванні жыццё. Да таго ж вядома і больш дакладная дата арышту Шыманскага -- 31 сакавіка 1878 года. І вось у хуткім часе наш суродзіч патрапіў у Сібір. Высылка Шыманскаму была прызначана бестэрміновая. Характар пакарання ў некаторай ступені вызначылі ўжо адны толькі паводзіны маладога чалавека на судзе. Адам, паколькі быў юрыстам, сам сябе і бараніў у ролі адваката. Клопат быў тым часам няпросты. Тым больш, толькі што адшумелі газеты, уся грамадскасць пра працэс над Верай Засуліч, якую абараняў знакаміты, бескампрамісны адвакат Коні. (суд, між іншым, праходзіў у зале першага аддзялення будынка Пецярбургскіх судовых устаноў на Ліцейнай якраз 31 сакавіка 1878 года). І Коні, вялікі расійскі юрыст, які старшынстваваў на судзе, вынес апраўдальны прыгавор Веры Засуліч за яе няўдалы напад на пецярбургскага гараднічага генерала Трэпава. І трэба заўважыць, на Коні аказваўся немалы ціск. Старшыню суда выклікаў да сябе нават цар. Гутарыў з Коні і міністр юстыцыі. "Ці мог міністр юстыцыі не хваляваццa і не націскаць на свавольнага старшыню? Ён жа паабяцаў цару, што прысяжныя вынесуць абвінаваўчы прыгавор! Што яны "дадуць урок цвярозасці купцы рэвалюцыянераў, дакажуць усім рускім і замежным прыхільнікам "геройскага подзвігу" Веры Засуліч, што рускі народ любіць цара, шаноўвае яго і заўсёды гатовы абараніць яго верных слугаў". Пален (прозвішча міністра юстыцыі. -- **А.Б., А.К.**) паставіў на карту сваю будучую кар'еру", -- апісвае тагачасную сітуацыю рускі пісьменнік Сяргей Высоцкі ў "жэзээлаўскай" манаграфіі пра Коні.

Веру Засуліч вызвалілі. А бескампраміснасць Коні выклікала буру гневу ў царскіх чыноўнікаў усіх рангаў. І вось проста чакаць нельга было нечага выратавальнага ў становішчы Шыманскага. Да ўсяго астатняга Адам праявіў мужнасць, не выдаў нікога з паплечнікаў па барацьбе. І ніхто не аспрэчыў такіх рашучых паводзін маладога рэвалюцыянера. Таму, забягаючы наперад, заўважым, што проста дзіўна чытаць у кнізе Караленкі "Гісторыя майго сучасніка" наступнае меркаванне: "На жаль, мне даводзіцца закончыць сумнай нотай, якая, магчыма, мела ракавое значэнне для абодвух Шыманскіх, для яго ў асаблівасці. У хуткім часе пасля рэвалюцыі ў Якуцку была знойдзена перапіска з міністрам унутраных спраў, у каторай Шыманскі прапаноўваў свае паслугі па частцы даносаў. Міністр адмовіў карэспандэнту, але ўсё ж такі прапанова была зроблена, і калі яна (маецца на ўвазе жонка Шыманскага. -- **А.Б., А.К.**) ведала пра гэта, то невядома, як гэта магло сказацца на ёй, колішняй гарачай бакуністцы". Спасылка на нікому невядомае сведчанне ў друку пайшла гуляць далей: Шыманскі, па звестках В.Пржыбоўскага, звярнуўся да Плеве з прапановай паслуг па частцы даносаў, але атрымаў адмову. Пры гэтым безапеляцыйна ўказвалася першакрыніца -- газета "Якутский край", 1907, N 14. Але дастаткова толькі звярнуцца да згаданага нумара газеты "Якутский край", як вы адразу ўпэўніцеся, што артыкул нібыта пра выкрыццё Шыманскага там, ды і ў папярэдніх альбо наступных нумарах таго ж выдання адсутнічае. Але ганебная справа была зроблена, і Шыманскі надоўга стаўся антыподам мужнага ссыльнага Юзафа Пілсудскага (будучы прэзідэнт і маршал Польшчы быў высланы ў Сібір 24 мая 1887 года і да ліпеня 1890 года жыў у Кірэнску, а пасля ў Тунцы).

Кірэнск. Першы сібірскі прытулак Адама Шыманскага. Хаця і не зусім... Хутчэй можна заўважыць, што Кірэнск -- першы сталы прытулак сям'і Шыманскіх. Дагэтуль жа... Дагэтуль жа -- Якуцк. І сустрэча з Уладзімірам Галакціёнавічам Караленкам. Наўрад ці вядомы рускі пісьменнік прыехаў у якуцкую кватэру Шыманскіх са згадкай пра тое, што і ў яго родзе ёсць частачка польскай ці ліцвінскай крыві. Хаця ж, як вядома, род Караленкаў пайшоў ад нейкага міргарадскага казачага палкоўніка, які атрымаў ад польскага караля гербавае дваранства. Пасля смерці дзеда пісьменніка бацька Уладзіміра Галакціёнавіча прывёз з хаўтур гербавую пячатку. На ёй была выразана ладдзя з дзвюма сабачымі галовамі на носе і карме з зубчатай вежай пасярэдзіне. Калі аднойчы дзеці папыталіся ў бацькі, што адлюстравана на пячатцы, які сэнс у малюнку, то павятовы суддзя адказаў:

-- Дзеці, мы маем свой герб, можам штампаваць ім сваю карэспандэнцыю, -- і з пэўнай доляй іроніі дадаў: -- Па-польску наш радавы герб называецца даволі дзіўнавата -- "Korab i lodzia" (човен і ладдзя). Але які гэта сэнс мае -- забіце мяне, не ведаю.

Відавочна, што ў сям'і Караленкаў надта не рупіліся ведаць свой радавод да пятага калена. І да Шыманскіх Караленка прыехаў усяго толькі па рэкамендацыі іх іркуцкага знаёмага М.Сажына. Апошні, папрасіўшы перадаць прывітанне жонцы Адама Шыманскага -- Надзеі Смецкай, наступным чынам ахарактарызаваў сваю колішнюю паплечніцу па рэвалюцыйнай барацьбе:

-- Надзя ўваходзіла ў жэнеўскі гурток антылаўрыстаў. Так пры жыцці Бакуніна называлі сучасных бакуністаў. Смецкая была энергічным, заўзятым палітыкам. А яшчэ праславілася Надзя апляўхай, якую дала на вуліцы аднаму з відных лаўрыстаў, што пісаў рэзкія артыкулы супраць Бакуніна.

(Заканчэнне на 6-й стар.).

# ВЫВАЗ МІРНАГА НАСЕЛЬНІЦТВА Ў ГЕРМАНІЮ

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

Прадугледжвалася выкарыстоўваць насельніцтва акупіраваных раёнаў толькі на месцы, у інтарэсах груп армій, якія вядуць ваенныя дзеянні. Правал планаў "маланкавай вайны" прымусіў гітлераўцаў унесці сур'ёзныя папраўкі ў першапачатковыя праекты выкарыстання рабочай сілы акупіраваных раёнаў СССР. У пачатку лістапада 1941 года Герынг даў указанне аб выкарыстанні савецкіх людзей на работах у Германіі і на акупіраваных тэрыторыях. Ён заявіў: "Рускія рабочыя паказалі сваю працаздольнасць у час будаўніцтва гіганцкай рускай прамысловасці, таму гэта працаздольнасць павінна быць выкарыстана на карысць імперыі". Ужо ў лістападзе 1941 года была пастаўлена задача вывезці на прымусовыя работы ў Германію з акупіраваных раёнаў СССР 15 мільёнаў рабочых. У сакрэтным цыркуляры N 4200/41 /II раздзел прылажэння/ гаспадарчага штаба германскага камандавання на Усходзе ад 4 снежня 1941 года было запісана: "Трэба скарыстаць рускіх людзей галоўным чынам для дарожнага будаўніцтва, будаўніцтва чыгунак і ўборачных работ, разміноравання і будаўніцтва аэрадромаў. Трэба расфарміраваць нямецкія будаўнічыя батальёны (напрыклад, ваенна-паветранага флоту). Нямецкія кваліфікаваныя рабочыя павінны працаваць у ваеннай прамысловасці; яны не павінны капаць зямлю і разбіваць камяні, для гэтага існуе рускі". "Рускага, -- даваў указанне Герынг у тым жа сакрэтным дакуменце (раздзел IY, пункт А-4), -- неабходна скарыстаць у першую чаргу на наступных участках работы: горная справа, дарожнае будаўніцтва, ваенная прамысловасць (танкі, гарматы, апаратура для самалётаў), сельская гаспадарка, будаўніцтва, буйныя майстэрні (шавецкія майстэрні), спецыяльныя каманды для тэрміновых неадкладных работ". У дырэктыве гаспадарчага штаба германскага камандавання на Усходзе ад 4 снежня 1941 года даваліся наступныя ўказанні аб адносінах да савецкіх людзей: "Пры прымяненні мер падтрымання парадку рашаючым меркаваннем з'яўляецца хуткасць і строгасць. Павінны прымяняцца толькі наступныя разнавіднасці пакарання, без прамежных ступеняў: пазбаўленне харчавання і пакаранне смерцю". "Скарыстанне рускіх цывільных рабочых, -- гаворыцца ў раздзеле "Б" сакрэтных указанняў, -- і абыходжанне з імі павінны практычна ні ў чым не адрозніваццa ад скарыстання ваеннапалонных і абыходжання з імі".

Узнімалася пытанне аб дадатковых працоўных рэсурсах для Германіі і пры абмеркаванні плана "Ост". У заўвагах доктара Ветцэля да гэтага плана адзначалася: "...беларусаў нардычнага тыпу, прыгодных па расавых прыкметах і палітычных меркаваннях для анямечвання, адправіць у імперыю з мэтай выкарыстання ў якасці рабочай сілы... Іх можна скарыстаць у сельскай гаспадарцы ў якасці сельскагаспадарчых рабочых, а таксама ў прамысловасці як рамеснікаў".

Угон на работы ў Германію стаў часткаю нямецка-фашысцкага акупацыйнага рэжыму. Выкарыстоўваючы войска і паліцыю, акупанты рабілі аблавы і вывозілі ў Германію тысячы савецкіх людзей, праяўляючы пры гэтым небывалую жорсткасць і самадурства. Па нямецкіх звестках, у лютым 1942 года штодзённа ў Германію вывозілася на работу 8--10 тысяч "цывільных рускіх".

Для правядзення ў жыццё страшэннай рабаўласніцкай праграмы быў створаны велізарны спецыяльны апарат на чале з назначаным Гітлерам "галоўным упаўнаважаным па выкарыстанню рабочай сілы" Фрыцам Заўкелем, які ў хуткім часе разаслаў у строга сакрэтным парадку ўрадавым і ваенным органам сваю "Праграму галоўнага ўпаўнаважанага па скарыстанню рабочай сілы". У гэтым дакуменце гаворыцца: "Вельмі неабходна цалкам скарыстаць у акупіраваных савецкіх абласцях наяўныя людскія рэсурсы. Калі не ўдасца добраахвотна прыцягнуць патрэбную рабочую сілу, дык неабходна прыступіць да мабілізацыі або да прымусовага падпісання індывідуальных абавязацельстваў. Побач з ваеннапалоннымі, якія ўжо знаходзяцца ў акупіраваных абласцях, галоўным чынам неабходна мабілізацыя грамадзянскіх кваліфікаваных рабочых і работніц з савецкіх абласцей ва ўзросце старэй 15 год для скарыстання іх на працы ў Германіі". У той жа "праграме" (раздзел "Задачы", пункт 4) Фрыц Заўкель заявіў: "Для таго каб прыкметна разгрузіць ад работы вельмі занятую нямецкую сялянку, фюрэр даручыў мне паставіць у Германію з усходніх абласцей 400--500 тысяч адборных, здаровых і моцных дзяўчат".

Агенты Заўкеля пачалі ўлік ўсяго працаздольнага насельніцтва ў акупіраваных раёнах СССР. Узятым на ўлік грамадзянам прапаноўвалі "добраахвотна" выехаць на работу ў Германію. Але паколькі добраахвотнікаў амаль не аказалася, немцы распарадзіліся ўжыць гвалтоўныя меры. Яшчэ 25 студзеня 1942 года "Гаспадарчы штаб германскага камандавання на Усходзе" ў сакрэтнай інструкцыі (БР 98510/12) патрабаваў: "Калі колькасць добраахвотнікаў не апраўдае чаканняў, дык згодна з загадам у час вярбоўкі трэба ўжыць самыя суровыя меры".

Падганяючы сваіх падначаленых, Фрыц Заўкель тэлеграфуе ім 31 сакавіка 1942 года (N ФА 5780, 28/729) наступны загад: "Вярбоўка, за якую вы адказваеце, павінна фарсіравацца ўсімі даступнымі мерамі, уключаючы суровае прымяненне прынцыпу прымусовасці працы".

"Вярбоўшчыкі" гандляра новымі рабамі Заўкеля ўжывалі разнастайныя меры ўздзеяння на савецкіх грамадзян, каб уцягнуць іх у нямецка-фашысцкае рабства. Тых, хто не з'яўляўся па выкліку акупацыйных улад, пазбаўлялі ўсіх сродкаў да існавання. Згаладалых людзей заманьвалі на вакзалы, абяцаючы раздачу хлеба, а затым ачаплялі салдатамі і пад пагрозай расстрэлу грузілі ў эшалоны. Але і гэта не дапамагала. Тады нямецкія ўлады пачалі рабіць развёрстку па гарадах і сельскіх раёнах, прычым кожны горад і раён павінны былі абавязкова паставіць пэўную колькасць жыхароў для адпраўкі ў Германію. Так, напрыклад, у Чэрвеньскім раёне Мінскай вобласці грамадзянка Зязенчык Кацярына з вёскі Волма атрымала наступнае прадпісанне: "На падставе загаду ваеннага камандавання вы абавязаны з'явіцца ў г.Чэрвень у аддзел працы а 10 гадзіне раніцы 6 снежня 1942 года для паездкі на працу ў Германію, захапіўшы з сабой памянёныя на адвароце гэтага прадпісання рэчы і прадукты на 4 дні.

У выпадку няяўкі будзеце прыцягнуты да адказнасці па закону ваеннага часу.

Кіраўнік Чэрвеньскага раёна".

На адваротным баку гэтага прадпісання ўказвалася, што неабходна захапіць з сабой цёплае зімовае адзенне, нацельную бялізну, рабочую вопратку, спраўны абутак, міску, лыжку, нож, відэлец, а таксама асабістае пасведчанне з фотакарткай.

**Мікалай БАНДАРЭНКА.**
**(Працяг будзе).**

# УНІЯЦТВА Ў ЛЁСЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА

Як толькі духоўнікі раз'ехаліся па хатах, паміж імі разгарнулася паленіка адносна таго, што адбылося ў кастрычніку 1596 года ў Бярэсці. І пазней яна не спынялася, набываючы ўсё больш вострыя характар. У якіх толькі грахах ні абвінавачвалі прыхільнікаў уніі! Называлі іх і здраднікамі. Але не менш было высокіх духоўных і свецкіх асобаў, якія глядзелі на царкоўную унію як на выратавальную акцыю, спадзяваліся, што яна адвядзе замахі на беларусаў з боку Маскоўскай патрыярхіі і польскага касцёла.

Хочацца нагадаць: калі падпісвалася Берасцейская царкоўная унія, канцлерам Вялікага Княства Літоўскага быў моцна адданы свайму краю і яго народу Леў Сапега. Калі б у гэтым царкоўным акце і сапраўды мелася штосьці такое, што пагражала б дзяржаўным інтарэсам карэннага насельніцтва краіны, ён замест падтрымкі уніі стаў бы праціўнікам апошняй. Такая палітыка дыктавалася тым, што ў саюзе праваслаўнай і каталіцкай цэркваў вялікі канцлер бачыў гарантыю спынення канфліктаў паміж іх вернікамі, якія за рэдкім выключэннем складалі адзін народ. Унія, як ужо пісалася раней, разглядалася абачлівымі палітыкамі і як надзейны гарант не толькі ад русіфікацыі, але і паланізацыі, якой, як правіла, заўсёды папярэднічалі поўнае ці частковае акаталічванне. Стаўшы уніятамі, усё ж можна было вызваліцца ад пагрозы апынуцца пад яго ўплывам, хаця і з неверагоднай цяжкасцю. Словам, можна па-рознаму тлумачыць прычыны падпісання Берасцейскай царкоўнай уніі, называць нават ледзь не здраднікамі яе аўтараў. Але што гэтая канфесія насуперак планам розных груповак, якія садзейнічалі яе заключэнню, з цягам часу пачала жыць інтарэсамі беларускага народа, -- гэты факт не падлягае аніякім аспрэчванням, і ім можна цалкам апраўдаць заключэнне данага рэлігійнага саюзу.

Як вядома, прыняцце еўрапейскімі народамі каталіцкай ці уніяцкай веры асабліва не пагражала іх нацыянальна-дзяржаўнаму суверэнітэту, не вяло да падпарадкавання Ватыкану ў сферы культурнага жыцця. На такое з поўнай падставай маглі разлічваць і тыя духоўныя асобы Праваслаўнай царквы Беларусі, што доўга выношвалі планы на унію з каталіцкай царквою. Сучасны беларускі гісторык Сяргей Тарасаў справядліва лічыць, што "фармальнае прызначэнне Палежа главой (уніяцкай царквы Вялікага Княства Літоўскага. -- **Л.Л.**) было хутчэй з'едлівым рэверансам у бок Маскоўіі і праваслаўнага патрыярха, чым фактычным яму падпарадкаваннем".

Ні сто, ні дзесяць, ні год да падпісання Берасцейскай уніі ніхто не гнаў у карак праваслаўных іерархаў Вялікага Княства Літоўскага абавязкова ўчыніць такую аб'яднаўчую акцыю. Кожны раз, калі ўзнікала падобнае пытанне, яно разглядалася вельмі грунтоўна і ўсебакова. Характэрна гэта было і для Ватыкана, прычым нават і ў самыя апошнія гады. Як вядома, не спяшаўся з увядзеннем уніі ў ВКЛ і рымскі папа Клімент VIII, відаць, баючыся, каб не пахіснуць веру людзей у правільнасць такога адказнага кроку. З гэтай мэтай ён наладзіў 23 снежня 1595 года ў Рыме афіцыйны прыём для кіраўнікоў праваслаўнай царквы епіскапа Валадзімерскага і Берасцейскага Іпація Пацея і епіскапа Луцкага Кірылы Тарлецкага, на якім практычна былі ўзгоднены ўсе пытанні, звязаныя з падпісаннем уніі.

Не лішнім будзе адзначыць, што епіскапскую грамату, абяцанне епіскапаў чыталі самому папу і прысутным на аудыенцыі не толькі на латыні, але і на тагачаснай беларускай мове. На заканчэнне папа сказаў епіскапам Вялікага Княства Літоўскага: "Не хачу панаваць над вамі, але хачу немачы вашы на сабе насіць". У адпаведнасці з усталяванымі ў такіх выпадках правіламі епіскапы пачалі цалаваць ногі папы, што пазней знайшло вельмі адмоўную характарыстыку ў працах гісторыкаў рэлігіі. А такі ж учынак ніяк нельга разглядаць як знявагу епіскапамі саміх сябе. Цалаваць ногі папы лічылася тады не ўніжэннем, а вялікім гонарам. З нагоды той сустрэчы ў Рыме выбілі медаль з надпісам "Ruthenis receptis", што ў перакладзе на беларускую мову азначае "Прыняцце Русі". Тэрмін "Русь" тут прысутнічае таму, што ім у той час у Еўропе называлі нашу краіну.

У спецыяльнай грамаце рымскага папы -- буле аб уніі -- гаварылася аб захаванні праваслаўных "абрадаў і цырыманіялу ў набажэнствах, у выкананні таінстваў і ў астатнім". Праваслаўныя іерархі дамагліся ад папы і згоды на наданне ўсім будучым уніяцкім біскупам сенатарскага звання, што павінна было садзейнічаць схіленню кіраўнікоў праваслаўнага кліру да уніяцтва. Што апошняе не ішло на поўны, абсалютны разрыў з усходнехрысціянскім абрадам сведчыць і такі факт, як прадпісанне праводзіць у грэка-рымскіх храмах набажэнства ў залежнасці ад абставін на нацыянальнай ці царкоўнаславянскай мовах.

Паважлівыя адносіны рымскага папы да беларускіх праваслаўных епіскапаў, якія далі папярэднюю згоду на унію, наўрад ці цалкам заспакоілі іх. Бо ці ж мала было выпадкаў, калі Ватыкан мяняў свае пазіцыі па тым ці іншым пытанні. Але страшней за ўсё было тое, што ад яго поглядаў істотна адрозніваліся -- і не ў лепшы бок -- адносіны да уніі кіраўнікоў каталіцкай царквы Польскага Каралеўства. Той, хто ехаў у Бярэсце абараняць інтарэсы беларускага насельніцтва Вялікага Княства Літоўскага, напэўна ж, ведаў, што зрабіць гэта будзе ой як нялёгка. За плячыма каталіцызму стаяў у той час вельмі вопытны палітычны дзеяч Польшчы, таленавіты прамоўца, былы рэктар езуіцкай калегіі ў Вільні Пётр Скарга (сапр. Павенскі), якога называлі польскім Залатавустам, розумам і сумленнем самога польскага караля Жыгімонта III. Гэта пра яго гаварылі: "...калі хочаш быць палітыкам, чытай творы Скаргі, філосафам -- чытай Скаргу, прамоўцам -- чытай Скаргу... бо Скарга ўсё і для ўсіх". Высока яго цаніў і беларускі гісторык XIX стагоддзя Адам Кіркор, заяўляючы, што Пётр Скарга -- гэта "адзін з самых знакамітых прадстаўнікоў палітыка-рэлігійнага напрамку езуітаў. Роўнага яму не было ні ў асяроддзі езуітаў, ні ў асяроддзі кальвіністаў. Паводле ўкладу жыцця, паводле характару Скарга быў асобай, з якой усе здзіўляліся, перад якой міжвольна ўсе схіляліся. У жыцці чалавек высокадухоўны, аскет у поўным сэнсе слова. Красамоўства яго было надзвычайнае, да такой ступені прываблівала, што яму амаль неўсвядомлена скараліся лютыя ворагі езуітаў".

Моцна памыляецца той, хто лічыць, што ў духоўных асобаў, якія падпісалі ў Бярэсці акт аб аб'яднанні праваслаўнай і каталіцкай цэркваў, не хапіла розуму, каб разабрацца, якую яны "шкоду" чыняць свайму краю. Не, такой ацэнкі гэтыя асобы не заслугоўваюць, бо яны ва ўсіх адносінах былі людзі высокаінтэлектуальныя для таго часу, любілі свой народ. Не шкадаваў эпітэтаў, характарызуючы тых, хто стаяў ля вытокаў царкоўнай уніі ці служыў на карысць апошняй у першыя гады яе існавання, вядомы рускі гісторык Сяргей Салаўёў. Паводле яго ацэнкі, епіскап пінскі і тураўскі Кірыла Цярлецкі -- гэта "разумны, адукаваны, спрытны і дзейны", архімандрыт мінскі Міхаіл Рагоза, які ў 1589 годзе замяніў кіеўскага мітрапаліта Анісіфара Дзявочку -- "чалавек набожны, сціплы, параўнальна бездакорнай духоўнасці, далёкі ад спраў гвалту", епіскап Валадзімерскі Іпацій Пацей падаецца "вялікім падзвіжнікам, устрыманнікам, поснікам, чуйным ахавальнікам правоў царкоўных, які ні ў якія справы свецкія не ўступае".

Праўда, такіх людзей не дужа багата было. Асабліва нізкім узроўнем адукаванасці і духоўнасці вызначаліся тыя, хто быў бліжэй да самой праваслаўнай паствы, што вельмі непакоіла шчырых прыхільнікаў гэтай канфесіі. Вось як характарызаваў яе тагачасны стан у лісце (21 чэрвеня 1593 года) да епіскапа Валадзімерскага Іпація Пацея вядомы палітычны дзеяч Вялікага Княства Літоўскага Канстанцін Астрожскі: "...людзі нашай рэлігіі заняпалі духоўна, што пануе ў іх лянота і нядбанне да набожнасці: не толькі не выконваюць яны абавязку свайго хрысціянскага, не абараняюць царкву божую і веру сваю старадаўнюю, але яшчэ і самі многія насміхаюцца з яе, разбягаюцца па розных сектах". Такое магло назірацца сярод праваслаўных вернікаў у значнай ступені таму, што з імі не вялі адпаведнай работы папы, што апошнія не вызначаліся належным узроўнем адукацыі і старанасцю пры выкананні сваіх абавязкаў.

Без перабольшвання унія паміж праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі выратавала Беларусь ад тых страшэнных бедаў, якія давялося зведаць многім краінам свету ад рознага роду канфліктаў на рэлігійнай глебе, што, відаць, ніколі не забывалася нашымі разважлівымі продкамі. Дый як на гэта можна было забыцца, калі хрысціянская рэлігія для свайго замацавання ў свядомасці людзей запатрабавала звыш семнаццаці мільёнаў чалавечых жыццяў. Зусім не мірнымі сродкамі распаўсюджваліся і іншыя рэлігійныя плыні. Адпаведна з легендай, яўрэйскі прарок Майсей толькі за тое, што многія вернікі прымалі за выдумку замагільнае жыццё, аддаў левітам распараджэнне забіць пяцьдзесят дзевяць тысяч чалавек. Усе гэтыя факты я ўзяў у аднаго з прадстаўнікоў французскага Асветніцтва Вальтэра, які строга асуджаў царкву за праліццё чалавечай крыві.

Не давялося Беларусі перажыць і Варфаламееўскай ночы, у час якой католікамі ў Парыжы 24 жніўня 1572 года было забіта дзве тысячы гугенотаў (прыхільнікаў кальвінізму). На шчасце нашай Бацькаўшчыны, тут ніколі не бушавала полымя жорсткіх братазабойчых рэлігійных войнаў, у развязванні якіх удзельнічалі б католікі і кальвіністы. Пачаліся ж рэлігійныя войны ў Францыі ў 1562 годзе і закончыліся толькі за год да падпісання ў Бярэсці царкоўнай уніі. Трэба думаць, што не толькі прадстаўнікі духавенства, але і іншыя адукаваныя людзі маглі прадбачыць зусім рэальныя і ва ўмовах Беларусі канфлікты паміж вернікамі на рэлігійнай глебе. Відаць, таму Сымон Будны і выдаў у 1576 годзе ў Лоску (Валожыншчына) у перакладзе з французскай мовы кнігу Эдманда Фрыза (сапр. Франсуа Гоман) "Аб фурыях, ці французскіх вар'яцтвах", у якой апісваліся кровапралітныя падзеі Варфаламееўскай ночы.

Наш край не таптала конніца турэцкіх янычараў, якія так шмат пралілі хрысціянскай крыві на немусульманскіх землях Асманскай (Атаманскай) імперыі. Чалавечыя, матэрыяльныя і іншыя ахвяры, што звязаны з гвалтоўным ці добраахвотным далучэннем праваслаўных беларусаў да уніяцтва, не ідуць ні ў якое параўнанне з тым, што, да прыкладу, давялося перажыць паўднёваславянскім народам ад фанатыкаў мусульманства. Праўда, разумным і міралюбным людзям не ўдалося выратаваць многія вёскі і гарады Беларусі ад набегаў (учыняліся яны яшчэ і да Берасцейскай уніі) атрадаў запарожскіх казакоў на чале з Лабадой і Налівайкам, што ў нашу гісторыю незаслужана ўвайшлі як героі казацка-сялянскага паўстання, шчырыя абаронцы праваслаўнай веры. Ад іх агню часта гінулі не толькі дамы і маёнткі буйных каталіцкіх магнатаў, але і простых паводле свайго сацыяльнага становішча беларусаў каталіцкай веры. Вось адзін з такіх "вызваленчых паходаў" двухтысячнага казацкага войска Севярына Налівайкі ў 1595 годзе на Магілёў, што засведчана на старонках Баркулабаўскага летапісу: "Мўсто славное Могилев, мўсто побожное, домы, крамы, остроги выжгли: домов всех яко 500, а крамов с великими скарбами 400. Мещан, бояр, людзей учтивых так мужей, яко и жон, детей малых побили, порубали, попоганили, скарбов теж незличоных побрали с крамов и з домов". Праз два гады, 11 красавіка 1597 года, жорсткі кат цывільнага насельніцтва Магілёва быў чвартаваны на адной з плошчаў Варшавы.

Больш гуманнымі і памяркоўнымі аказаліся нашы продкі ў час вострых рэлігійных палемік адносна большай ці меншай вартасці той ці іншай канфесіі і наогул аб існаванні самога Бога. Смяротная кара (але не па віне беларусаў) не абмінула толькі нашага вядомага мысліцеля, ураджэнца Берасцейскага павета Казіміра Лышчынскага (каля 1634--1689), спаленага на кастры на плошчы Старога Мяста ў Варшаве. А вось пасля таго, як рымскі папа Сікс заснаваў суд "святой інквізіцыі" для барацьбы з перадавой, незалежнай ад рэлігійных догмаў навукай, толькі ў Іспаніі за час свайго існавання інквізіцыйныя трыбуналы спалілі на кастрах, замардавалі ў сутарэннях кляштароў каля 350 тысяч чалавек.

Горкі чужы вопыт вучыў беларусаў, як трэба было ўдумліва, разважліва ставіцца да вырашэння пытанняў рэлігійнага жыцця ў такой далёка не міралюбнай сярэдневяковай Еўропе. Таму каб надзейна абараніць беларускі этнас ад зусім рэальнага распаду ў выніку ажыццяўлення экспансіяніcцкіх планаў усходніх і заходніх суседзяў, пазбегнуць досыць магчымых у такіх неспрыяльных варунках рэлігійных войнаў, абачлівыя, высокія праваслаўныя асобы Беларусі, якіх часта беспадстаўна называлі і называюць здраднікамі, без асаблівага прымусу і пагрозы, свядома пагадзіліся на заключэнне царкоўнай уніі з каталіцкім касцёлам.

У выніку падпісання ў 1596 годзе ў Бярэсці такога акта практычна не давялося панесці аніякай страты ў вераваннях продкаў, бо асноўныя праваслаўныя абрады захоўваліся ж без змяненняў, а толькі ўсталёўвалася вяршэнства ўлады рымскага папы над уніяцкай царквой, які не толькі не ўмешваўся ва ўнутраныя справы яе вернікаў, а, наадварот, часта выступаў у ролі іх абаронцаў ад несправядлівасцяў з боку больш моцнага суседа ў асобе польскага каталіцкага духавенства. Вядомыя шматлікія факты, калі Ватыкан строга асуджаў яго за спробы ўвесці ў набажэнства уніяцкай царквы Беларусі польскую мову, схіліць яе вернікаў жыць паводле польскіх узораў.

Прыняццем уніі беларусы без усялякай падтрымкі звонку самі сябе выратавалі ад поўнага акаталічвання, а, значыцца, і ад поўнай паланізацыі. Шэраг жа іншых народаў грэка-славянскага абраду, у прыватнасці чэхі, якія жылі па суседству з каталіцкімі краінамі, рана ці позна амаль цалкам перайшлі на гэтую веру, праліўшы пры гэтым шмат крыві ў выніку бітваў з войскамі германскіх імператараў -- актыўных праваднікоў каталіцкай рэлігіі.

Адзінае, за што можна дакараць высокіх праваслаўных духоўных асобаў, што яны вельмі даверыліся слову каталіцкіх іерархаў і як след не настаялі, каб яно падмацоўвалася іх практычнымі дзеяннямі. Калі праваслаўныя і каталіцкія духоўнікі сабраліся ў Бярэсці, яны дамаўляліся аб аб'яднанні вернікаў гэтых дзвюх канфесій ва уніяцтва. На справе ж ніхто і не падумаў у яго пераводзіць католікаў. Уніяцтва ствaралася толькі за кошт праваслаўных вернікаў. Больш таго, як толькі надаралася магчымасць, апошніх імкнуліся навярнуць не ва уніяцтва, а ў католікаў. Як бачым, каталіцкае духавенства адразу ж стала на шлях адкрытага здрадніцтва ў дачыненні да праваслаўнай царквы, нясе найбольшую адказнасць за ўсе канфлікты, якія ўзнікалі паміж імі ў перыяд пасля падпісання уніі. Ашуканства польскага каталіцкага духавенства выклікала вялікую незадаволенасць і ва уніяцкай царквы, таму зусім не выпадкова, што ў іх узаемадачыненнях на працягу ўсіх гадоў вельмі мала было згоды і паразумення.

Мірна і лагодна пашыралася новая вера толькі там і тады, дзе і калі даны працэс адбываўся без асаблівых старанняў каталіцкага духавенства, рэгуляваўся праваслаўнымі святарамі. Адсутнасць якіх-небудзь сур'ёзных прымусовых захадаў свецкіх і духоўных уладаў на карысць уніяцкай царквы прызнаваў і гісторык Адам Кіркор, калі пісаў: "Унія ж прымалася народам неўсвядомлена, паводле загаду ўладальнікаў. Абраднасць, мова заставаліся ранейшыя, і народ не заўважаў нават альбо не разумеў асноўнай перамены, менавіта ў прызнанні вяршэнства папы. Праваслаўнае духавенства ў той час было такім грубым і неадукаваным, што не магло ўплываць дабратворна на сельскае саслоўе, не магло сапернічаць з езуітамі і па адносінах да вышэйшых саслоўяў". У такіх умовах пашыраць сферу ўплыву уніяцтва не ўяўлялася вялікай цяжкасцю.

**Леанід ЛЫЧ.**

**Працяг.**
**Пачатак у N 39—40.**

Праспект Машэрава ў Мінску.

Фота Пятра КАСТРАМЫ.

ШЛЯХАМІ "ЗЯМЛІ І ВОЛІ"

# БРАТЫ КАТЫРЛЫ

Поэтому я просил з(емского) исправника, чтобы он послал нарочного в места, где находятся по уезду войска, с предписан(ием) принять все меры к поимке известного лица. Сегодня обо всем (неразборліва) о появлении воззвания доносит городни(чий), как он мне обўявил.

Ах, нужно более средств полиции, чтобы наблюдать в городе за появляющимися неизвестными. Мною (неразборліва) чтобы пленных Венгров (неразборліва; відаць, размова пра назіранне за палоннымі, узятымі пры падаўленні рэвалюцыі 1848 года ў Венгрыі, якія па нейкіх прычынах (прыжыліся?) яшчэ аставаліся на Беларусі; у новых умовах грамадскага крызісу яны маглі выклікаць трывогу. -- **Г.К.**) а Бог их знает (неразборліва)".

Адзначым, вылучым два аспекты. Па-першае, прызнанне, што "адозва гэтая, як чуваць, была ўжо некаторым вядомая раней". Пакольки, несумненна, у даным выпадку маецца на ўвазе Орша або ўсходняя Беларусь, то вельмі магчыма, што гэта якраз вынікі ранейшай больш удалай дзейнасці Катырлы, якая не была раскрыта следствам і асталася, так бы мовіць, "за кадрам".

І другое. Аўтар пісьма вельмі скептычна ставіцца да распараджэння аршанскага гараднічага назіраць за "полушубковою наружностию". Гэта значыць -- за людзьмі ў кажухах. А між тым якраз гэтая ініцыятыва паліцыі і пагубіла Катырлу. Па бязглуздай выпадковасці (трэба ж так здарыцца!) Савініч таксама разгульваў у кажуху, і калі паліцыя па гэтай прычыне звярнула на яго ўвагу, ён адразу ж "раскалоўся" і выдаў Катырлу (унутрана ён ужо гатовы быў да гэтага з самага пачатку).

Але вернемся да справы N 891, распачатай у сувязі з дастаўкай Катырлы і Савініча ў Магілёў.

Дык вось 15 сакавіка. Магілёў-на-Дняпры (афіцыйная назва нашага Магілёва паводле імперскай "геаграфіі"). Губернатар -- магілёўскаму паліцмайстру (закрэсленае ў копіі дакумента бяром у дужкі):

"Предписываю вашему высокоблагородию сделать распоряжение о немедленной отправке в Могилевский острог присланного из г.Орши дворянина Котырло (который обвиняется в распространении возмутительных воззваний) для содержания его там (под строгим караулом) впредь до особого распоряжения как о нем, так и о присланном с ним писце правления VII округа путей сообщения Савиниче, которого содержать под арестом при полиции.

При сем препровождаются для сохранения взятые при обыске у Котырло вещи".

Назаўтра губернатар накіраваў першыя матэрыялы па справе Катырлы міністру ўнутраных спраў, дадаўшы таксама пра знаходку пракламацыі "Льецца польская кроў..." у паштовай скрыні ў Оршы і што "обвиняемый Котырло заключен в острог в особую камеру, а прикосновенный к делу Савинич содержится под присмотром полиции".

Так яны і будуць праходзіць разам па адной справе -- адзін як абвінавачаны, а другі -- датычны. І ўтрымлівацца будуць па-рознаму: першы -- пад строгаю вартаю ў астрозе, другі -- больш вольна, пры паліцыі.

У маральным сэнсе Савінічу было куды цяжэй. Ва ўмовах высокага грамадскага ўздыму, які папярэднічаў паўстанню 1863 года, большасць землякоў рашуча асудзіла яго ўчынак. Абураліся і прагрэсіўна настроеныя афіцэры, многія з якіх адчувалі ўплыў ідэй падпольнага "Камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы". Гэта пачалося яшчэ ў Оршы, калі Савініч яшчэ нібыта радаваўся, што змог зрабіць паслугу ўраду, і не падазраваў, у якое ліха трапіў. Больш таго -- ён быў гатовы да новых "паслуг". У справе ёсць запіска без подпісу і даты, але належыць яна, вядома ж, Савінічу і адрасавана хутчэй за ўсё паліцмайстру. Падаем яе цалкам, трохі паправіўшы арфаграфію ды расставіўшы знакі прыпынку, з якімі Савініч яўна не ладзіў:

"В дополнение моего отзыва по делу г. Котерло (так у дакуменце. -- **Г.К.**) честь имею донести вашему высокоблагородию, что по донесению (доносу. -- **Г.К.**) моему на Котерло как на вредного человека я получил много неприятностей, а именно от артиллерийского офицера Бучерманского, который, придя в Оршанское полицейское правление и увидя меня там, завел со мною разговор, хотя я и не был с ним знаком, упрекая меня, что подобное донесение можно счесть за великую подлость, и спрашивая меня, что за цель моего донесения -- или же с преданности к своему отечеству, а может быть, надеетесь получить за это награду, то ошиблись в своем мнении. Подобное наставление, как г. Бучерманского, было подтверждено многими лицами теми, которые были моими хорошими знакомыми долгое время, но в эту счастливую минуту заметил резкую измену моих друзей, о которых ничуть не сожалею за принятое (ими) участье в недостойном человеке и враге русскому Отечеству. Конечно, люди, которые сочувствуют и принимают особое участье в подобном человеке, как Катерло, можно и их счесть по крайней мере хотя в половину подобными людьми, как Катерло, тем более за сделанную складку денег для Котерлы. В этих же денежных пожертвованиях участвовали

1. Бучерманский
2. Старший Богданович
3. Письмоводитель Скорино

Младший Богданович -- утвердительно не могу сказать".

Багдановіч, Скарына -- якія спрадвечныя беларускія прозвішчы землякоў, што спачувалі Катырлу, стараліся аблягчыць яго долю і, наадварот, рэзка асуджалі Савініча.

Нягоды Савініча, звязаныя з непрыняццем яго ўчынку навакольнымі, працягваліся і ў Магілёве. 25 сакавіка ў тракціры "Расія" (відаць, яго адпускалі часам ненадоўга з паліцыі) хлапца збіла на горкі яблык група магіляўчан (Дэмбінскі, Гурскі, Акушка), якія накінуліся на яго з крыкам: "Вунь той самы, які выдаў нашага брата!"

...Між тым справай Катырлы моцна зацікавіліся ў Пецярбургу. Гэтага належала і чакаць: больш лютага ворага, чым "Зямля і Воля", у самадзяржаўя не было. 29 сакавіка тэлеграф -- апошняя на той час навінка тэхнікі -- прынёс загад:

"Могилев губернский. Начальнику губернии. Арестованного дворянина Котырло выслать с двумя жандармами в 3 Отделение Собственной Его Величества канцелярии. Свиты Его Величества генерал-майор Потапов".

Назаўтра хуткія коні панеслі нашага героя з жандарамі на ўжо знаёмую нам станцыю Востраў (Пскоўскай губ.), адтуль трэцім класам чыгункі -- на берагі Нявы.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**Працяг.**
**Пачатак у NN 37, 39. 40.**

# СПАТКАННЕ З БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ ПРАЗ 50 ГАДОЎ

**(Заканчэнне.**
**Пачатак на 1-й стар.).**

-- Нарадзіўся я ў Горках Магілёўскай вобласці ў 1939 годзе. Шмат маіх сваякоў яшчэ да вайны пацярпелі ад саветаў: былі раскулачаны, а потым асуджаны і высланы. Якія наступствы ад гэтага маглі быць для ўсёй сям'і, тлумачыць сёння ўжо не трэба. Вось таму мае бацькі, якія клапаціліся пра лёс сваіх дзяцей, вырашылі ў 1944 годзе выехаць з Беларусі. Спачатку мы трапілі ў Германію і толькі напрыканцы 1949 года пераехалі на сталае жыхарства ў Аўстралію.

**-- Ці захаваліся якія-небудзь успаміны з таго далёкага маленства!**

-- Пра Беларусь мала што памятаю. Увогуле, цяпер мне цяжка нават адрозніць свае ўспаміны ад расказаў пра бацькаўшчыну бабулі і дзядулі, якія маглі распавядаць пра яе няспынна. Згадваецца пераезд у Германію, нямецкая школа. Вельмі добра памятаю наш прыезд у Мельбурн, як напачатку было цяжка. Акрамя мяне ў бацькоў было яшчэ шасцёра дзяцей. Усе мы адразу пайшлі ў школу. Вучоба для нас была бясплатная. Усе атрымалі адукацыю, а потым працу. 25 гадоў я быў інжынерам-канструктарам у Амерыканскай кампаніі.

**-- Ці сачылі вы за падзеямі ў Беларусі!**

-- Наколькі гэта было магчыма: вы ж ведаеце, які быў час. Дзесяцігоддзе таму я нават і марыць не мог аб прыездзе ў Беларусь. Доўга я падтрымліваю кантакты з аўстралійскімі беларусамі. Задзіночанні беларусаў у Аўстраліі былі і ёсць месцы, дзе можна атрымаць найбольш поўную інфармацыю пра Беларусь. Шкада, што людзі, якія туды ўваходзяць, даволі сталага ўзросту і з кожным годам іх становіцца менш. Моладзь, на жаль, не вельмі цікавіцца беларускай справай. Увогуле навіны з Бацькаўшчыны даходзяць да Аўстраліі марудна. Калі-нікалі можна скарыстаць першы канал Расійскага тэлебачання, які маем магчымасць глядзець. Нядаўна мы атрымалі час слухаць пра падзеі з Беларусі па мясцовым радыё, ну а самай рэгулярнай крыніцай навін з Беларусі пакуль застаецца ваша газета "Голас Радзімы".

**-- Спадар Сасноўскі, вы ўжо некалькі тыдняў на радзіме. Што вам давялося пабачыць і якія вашы ўражанні!**

-- Так, я ўжо шмат што пабачыў. Дзякуючы намаганням супрацоўнікаў "Бацькаўшчыны" Ганны Сурмач і Ніны Петуховай, а таксама спадара Яўгена Лецкі я наведаў Навагрудак, Мір, быў на сваёй радзіме ў Горках. Уражанні самыя розныя, да супрацьлеглых. Уражвае сваёй прыгажосцю прырода. Я быў у розных краінах, але нідзе не бачыў так шмат прыгажунь, як у Беларусі. На фоне гэтай натуральнай прыгажосці мяне вельмі здзіўляе беднасць, у якой жывуць людзі. Увогуле мне падалося, што за пяцьдзесят гадоў жыццё ў вас, асабліва на вёсцы, не шмат змянілася. Яно менавіта такое, як я і ўяўляў сабе з расказаў маіх дзядулі і бабулі пра Беларусь. Так, не ўсюды ёсць тэлевізары, халадзільнікі, не гаворачы пра тэлефоны. Нічога не змянілася істотна. Умовы для працы калгаснікаў вельмі прымітыўныя. Больш таго, за цяжкую працу з ранку да ночы людзі атрымліваюць такую мізэрную зарплату, што я не ўяўляю, як яны ўвогуле могуць на яе існаваць. І гэта пры тым, што цана на прадукты амаль такая ж, як у Аўстраліі, за выключэннем толькі вельмі таннай гарэлкі. Таму не дзіўна, што ў вас існуе праблема п'янства.

**-- Ну а як вас сустрэла ваша радзіма!**

-- Вандроўка ў Горкі была вельмі хвалюючай. Увогуле мяне там чакала неспадзяванка. Калі я прыехаў і ў першага сустрэчнага пачаў распытваць пра дом, дзе мы некалі жылі, незнаёмец паказаў не толькі на мой дом, але і на дом майго стрыечнага брата, які жыве ў Горках дагэтуль. Доўгі час ён выкладаў у Горацкай сельгасакадэміі, а цяпер на пенсіі. Сустрэча была вельмі нечаканай для нас абодвух. Ён на дзесяць гадоў старэйшы за мяне і равеснік маёй сястры. Я адразу ёй патэлефанаваў, і яна была шчаслівая даведацца, што наш стрыечны брат, з якім яна гуляла разам у дзяцінстве, жывы і здаровы. Мяркую, у наступным годзе мы прыедзем у Беларусь ужо разам. На развітанне ён падараваў свае навуковыя працы. Сапраўды гэта быў вельмі хвалюючы момант.

**-- Адчуваецца, што праблемы Беларусі вас вельмі кранаюць. Кажуць, што здалёк бачна лепш. Што, на вашу думку, беларусы мусяць зрабіць у першую чаргу, каб палепшыць сваё жыццё!**

-- У мяне было шмат сустрэч і размоў з рознымі людзьмі. Самае галоўнае тут, як мне падаецца, людзі павінны перастаць чакаць нейкі цуд. Трэба ўцяміць, што ніхто не прыйдзе і за цябе тваю справу рабіць не будзе. Колькі можна спадзявацца на добрага дзядзьку! Адзін чалавек, які б ён ні быў разумны, усё прадугледзець і вырашыць за ўсіх усе праблемы проста не здольны. Наш лёс у нашых руках. Трэба рабіць усё магчымае, каб хутчэй далучыцца да цывілізаваных краін. Для гэтага ў вас ёсць усе рэсурсы. Нічога новага тут не прыдумаеш -- проста кожны мусіць пачаць працаваць сумленна, быць годным грамадзянінам, абараняць свае правы і інтарэсы, адным словам, займаць актыўную пазіцыю ў грамадстве. Трэба перабудоўваць прамысловасць і сельскую гаспадарку, каб беларускую прадукцыю рабіць канкурэнтаздольнай. Пакуль усе прылаўкі ў вашых крамах завалены замежнымі вырабамі. Тут магла б быць істотнай дапамога замежных інвестараў. Вядома, яны патрабуюць пэўныя гарантыі і ўмовы. Але калі "за" пераважваецца "супраць", дзяржава мусіць дзейнічаць рацыянальна. Увогуле нейкім чынам можна было б скарыстаць дапамогу і беларусаў замежжа. І першае, што мог бы тут зрабіць урад, гэта ўвесці падвойнае грамадзянства, як у Польшчы, напрыклад. Гэта значна спрасціла б шлях беларусаў на радзіму і дапамогу ёй.

**-- Падвойнае грамадзянства -- справа добрая, але мы да яго яшчэ, падаецца, не даспелі. У сённяшніх умовах побач з працэдурай спрашчэння, з аднаго боку, яно можа дадаць нечаканых складанасцей, з другога. Скажыце, а вы таксама хацелі б супрацоўнічаць з Беларуссю!**

-- Так. Гэты мой візіт на радзіму больш эмацыянальна-азнаямляльны. Тым не менш, у мяне было некалькі сустрэч, якія можна разглядаць як вывучэнне магчымасцей для супрацоўніцтва. Цяжка пакуль сказаць, што з гэтага атрымаецца, але мне вельмі хочацца, каб пра Беларусь больш ведалі ў свеце, каб стала яна роўнай сярод роўных дзяржаў.

**-- Можа ёсць ужо нейкія пэўныя напрацоўкі!**

-- Не хацелася б забягаць наперад. Але адным з першых крокаў на шляху да супрацоўніцтва мне бачыцца арганізацыя выставы беларускіх мастакоў у Аўстраліі. Мяркую, што здолею дамовіцца з аўстралійскімі уладамі: хачу, каб усе выдаткі, звязаныя з яе арганізацыяй, узялі яны на сябе. Але гэта пакуль толькі планы.

**-- Добра было б, каб усё задуманае атрымалася. Жадаю вам поспехаў і дзякуй за цікавую размову.**

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

# "У ВАЧАХ АЙЧЫНЫ"

**Нядаўна ў выдавецтве "Полымя" выйшаў зборнік Станіслава Валодзькі "У вачах Айчыны". У прадмове да зборніка пісьменнік Сяргей Панізьнік, які ўзначальвае раду таварыства "Беларусь -- Латвія", піша:**

"Не прыхамаць жыцця, а накірунак лёсу: Станіслаў Валодзька з Гарадзеншчыны сёння дзеіць на латгальскай зямлі. Якраз там, дзе больш за ўсё неабходная людзям яго грамадзянская чыннасць. У Даўгаўпілсе спадар Стах узначальвае беларускую культурна-асветніцкую суполку "Уздым"; не без яго ўвагі там, на сумежжы многіх нацыянальных культур -- балцкіх і славянскіх, крынічаць фальклорная сябрына "Купалінка", беларуская нядзельная школка...

У адрозненне ад людзей вершы не эмігрыруюць, не становяцца паязджанамі. Яны заўсёды ў баяполі творцы і служаць ідэі сумесна з ім, у тым дазоры, дзе ўцвердзіўся яго штандар.

Таму і вершы нашага дазорца -- Станіслава Валодзькі -- не крыклівыя і шабуршыстыя, не бадзёрыста-заліхвацкія. У іх -- спакойны, разважлівы роздум. Аўтар вольна і па-гаспадарску кемна пачувае сябе ў традыцыйным рэчышчы літаратуры, і яго не спакушаюць настырна-мадэрновыя ўзвівы. І яму ўдаецца ўзбагаціць чытача запаветнай надзеяй Паэзіі. А якая ўдзячная дзялянка Станіслава Валодзькі, дзе ён гадуе лагодныя радкі для дзетак-малалетак!".

***Ніжэй друкуем некалькі вершаў з новага зборніка Станіслава ВАЛОДЗЬКІ.***




**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА**

## НА КУПАЛЛЕ

**І на Купалле гарэлі кастры,**
**Лютай вайны бушавалі пажары.**
**Мірнай шчаслівай часінаю зараз**
**Вечны агонь на Купалле гарыць.**

**Рукі ў малітве да зор распасцёр**
**Вечны агонь, як купальскі касцёр,**
**Вечны агонь ачышчальны такі,**
**Як і купальскі касцёр трапяткі...**

***

*В. ШНІПУ*

**У Менск вядомым я прыеду,**
**І прыгадаецца тут мне,**
**Як я з юнацтва Менск наведваў**
**І як слязам не верыў Менск,**

**Як, ноч правёўшы на вакзале,**
**Я па рэдакцыях спяшыў,**
**Дзе часам з вершаў жылы рвалі --**
**Бяскрылы люд свой суд вяршыў.**

**Ніхто майго не бачыў плачу.**
**Пасля ўжо толькі -- друг і Бог.**
**Я свету боскага не бачыў, --**
**Каб вершы ўбачылі яго.**

**Калі ж, хоць зрэдку, --**
**друкавалі,**
**Святлела зразу мне ў вачах:**
**Руку мне часам падавалі, --**
**Хто сам гарэў, --**
**не тлеў, не чах.**

**І дзякуй ім, і дзякуй Богу,**
**Што ўсе разбіцца не маглі**
**Аб рэдакцыйныя парогі**
**Мае удачы - караблі.**

## У ДЗЕНЬ І ГОД АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ

**Часцей бы нам глядзецца**
**ў вочы дзецям,**
**Часцей бы нам глядзець**
**вачмі дзяцінства,**
**Каб не было дзяцінства сіроцінствам,**
**А каб было дзяцінства**
**залацінствам.**

**Каб не хавалі воч сваіх мы дзесьці,**
**Калі у вочы нам заглянуць дзеці.**
**Ад нашай часам**
**чэрствасці варожай**
**Абарані дзяцей сваіх, нас, Божа!**

***

**Тая вёсачка за лесам**
**Ледзь знаёмай мне была.**
**Папрасіў вады.**
**Бабуся**
**Малака мне наліла.**

**Скуль я, чый я -- запытала**
**І ўздыхнула:**
**-- Вось бяда:**
**Ўжо зусім нямоглай стала,**
**А кароўку грэх прадаць.**

**Сенаваць не едуць дзеці.**
**Ды на край зямлі зусім**
**Іх занёс аднойчы вецер,**
**Што дабрацца цяжка ім.**

**А адзін -- памёр. Вось гора.**
**Той бы, пэўна, памагаў...**
**Падкаціў камяк пад горла. --**
**Малаком я ледзь прагнаў.**

## НА АДКРЫЦЦІ ПОМНІКА ЕЎДАКІІ ЛОСЬ У ВІЦЕБСКУ

**Каб не зглушыла**
**Нашы душы**
**Злосць,**
**А прарастала ў нас**
**Кахання млосць**
**І дабрыня,**
**Над словам шчыравала**
**Ад Бога сейбіт**
**Еўдакія Лось.**

**Відаць, упала зерне**
**Не на камень,**
**Калі красуе збожжа**
**Ў людзях вось,**
**Што, як і сумленне,**
**Не губляюць памяць.**
**Тут Еўдакія Лось**
**Была,**
**І ёсць,**
**І будзе...**

## ЗАХАПЛЕННЕ

**Дзесяцігадовай дзяўчынкай прыйшла Наташа Якубовіч у салігорскі Дом піянераў у студыю "Скарбонка". Захапілася народнай керамікай. Да гэтага часу пад кіраўніцтвам Мікалая Пратасені і Аляксандра Кірычака авалодвае яна сакрэтамі ганчарнага рамяства. Наташа завочна вучыцца ў Беларускім універсітэце культуры на факультэце культуралогіі народных рамёстваў. Захапленне керамікай стала цяпер неад'емнай часткай яе жыцця. З вялікім задавальненнем лепіць малады майстар народную цацку, кафлю, дэкаратыўнае пано.**

**Наташа -- удзельніца гарадскіх, абласных, рэспубліканскіх і міжнародных выстаў. Яе работы адзначаны сярэбраным медалём "Юны ўдзельнік ВДНГ СССР", яна ўдзельніца ўсесаюзных канферэнцый па народных промыслах, член гарадскога творчага аб'яднання "Спатканне".**

**НА ЗДЫМКУ: працуе Наташа ЯКУБОВІЧ.**

**Фота Алы АМЕЛЬЧАНКА.**



# ЗАГАДКАВЫ ГОСЦЬ ПОЛЬСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).**

...Караленка -- у Якуцку. Горад амаль пусты ад палітычных: іх рассылалі па ўлусах. У Шыманскіх збіраюцца брат загінуўшага ў Шлісельбургу Шыраева, а таксама пара, муж і жонка, даволі багатыя маскоўскія купцы. Караленка занатаваў у "Гісторыі майго сучасніка" наступны партрэт Смецкай: "Я прыехаў да іх, перадаў прывітанне ад Сажына, і яны прынялі мяне вельмі цёпла. Смецкая была жанчына прыгожая і дваранскі пародзістая. Яе вялікія вочы часам яшчэ ўспыхвалі былым агнём".

Да жаніцьбы Шыманскі быў магутным гулякам. З'яўляўся нават сабутэльнікам мясцовага пракурора. І вось -- жаніцьба. Казалі, што Смецкая і выйшла замуж якраз, каб выратаваць дзіўнаватага паляка ад запою. Смецкая ж разгледзела ў Шыманскім вялікія здольнасці, якія стрымлівала толькі п'янства. І Надзеі ўдалося абараніць мужа ад жахліва-настойлівага Бахуса. Жыць Шыманскія пачалі толькі клопатамі сваёй сям'і. Нарадзіўся хлопчык.

Калі ў Шыманскіх гасцяваў Караленка, Надзея насілася з адметнай і дзіўнай ідэяй выхавання дзіцяці. Смецкая, падкрэсліўшы, што яна руская, а муж паляк, пажадала, каб у дзіцяці было два імя па бацьку. Бо, маўляў, абедзве ж нацыянальнасці маюць аднолькавыя правы на душу дзіцяці. Таму па вяртанні на радзіму разам з хлопчыкам Шыманскія будуць жыць па чарзе то ў Расіі, то ў Польшчы, каб дзіця знаходзілася пад польскім і пад рускім уплывамі. Радзіму ж выбера сам хлопчык, стаўшы дарослым і самастойным.

...Якуцкім вечарам у той жа кампаніі Караленка прачытаў сваё апавяданне "Сон Макара". Пасля таго як пісьменнік завяршыў чытанне, Шыманскі доўга хадзіў па пакоі. І як быццам нешта абдумваў. Потым вельмі натхнёна запэўніваў Караленку, што таму ні ў якім разе нельга кідаць пісаць. Словы адрасаваў Караленку, а таму здавалася, што паляк пераконвае ў гэтым самога сябе.

Яшчэ знаходзячыся ў Якуцку, Адам Шыманскі задумаў напісаць шырокую, шматгранную кнігу "Якуцкі край і яго жыхары", якая павінна была складацца з наступных раздзелаў: "Уступ", "Гісторыя заваёвы Якуцкай зямлі", "Звесткі пра Якуцкі край да яго заваёвы", "Гісторыя якуцкага землекарыстання", "Рускі народ (сібіракі)", "Бібліяграфія". У гэтай вялікай працы прадугледжваліся і наступныя часткі -- "Паходжанне якутаў", "Рэкі", "Горы", "Флора", "Краіна і народ -- агульная характарыстыка", "Клімат (самы халодны клімат свету)", "Азёры, сродкі камунікацыі, кірмашы, гандаль", "Якуты", "Палякі ў Сібіры". Усё гэта засталося ў рукапісах і захоўваецца ў архівах Варшавы і Кракава.

Чаму ж Адам Шыманскі не стаў друкаваць свае матэрыялы? Прычынай на тое стаўся выхад ў 1884 годзе кнігі З.Лібровіча "Палякі ў Сібіры". І Шыманскі перастае займацца гэтай тэмай, хаця ж фактычна абсяг самой ужо задумы быў шмат шырэйшым. А ў 1892 годзе Прыклонскі выдае бібліяграфію па якуцкай тэме. І ўжо, атрымліваецца, адпала патрэба ў бібліяграфіі Шыманскага. Калі ж пабачылі свет "Якуты" В.Серашэўскага, Адам кідае і гэтую тэму. Не бачачы канкурэнтаў, А.Шыманскі пачынае складаць "Параўнальны слоўнік якутаў", каторы ўмясціў 200 якуцкіх слоў з паралелямі на нямецкай, польскай, літоўскай, рускай, сербска-харвацкай, грэцкай і лацінскай мовах. Але ж ізноў гэтая канкурэнцыя! У 1899 годзе выходзіць першы выпуск слоўніка Эдуарда Пякарскага. Шыманскі пакідае і свае мовазнаўчыя росшукі. Канешне ж, дарэмна. У кожнага з пішучых -- свой шлях, свае сцежкі нават у межах аднае і тае ж прасторы.

Яшчэ ў 1882 годзе А.Шыманскі выдаў сваю працу "Ежа якутаў" (у "Известиях РСО ИРГО", т. 16). У красавіку 1891 года на пасяджэнні этнаграфічнай секцыі "ИРГО" ён прачытаў свой даклад "Паходжанне і сапраўднае значэнне слова "тунгус". У 1905 годзе даследаванне гэтае публікуецца ў чацвёртым нумары "Этнографического обозрения". У наступным годзе ў тым жа "Этнографическом обозрении" (і зноў жа ў чацвёртым нумары) рэдакцыя змяшчае разгромную рэцэнзію на працу Шыманскага.

Але, вярнуўшыся на радзіму, Шыманскі знаходзіць сілы для заняткаў літаратурай. Крытыка адзначае, што ў польскай літаратуры з'явілася цікавае імя. У апавяданнях Шыманскага апісваліся сустрэчы з суайчыннікамі ў далёкім якуцкім краі. У творах была моцная туга па радзіме. Шыманскі знаходзіў для выказвання яе самыя шчырыя, праніклівыя ноткі. Гэта была якраз самая ўдзячная тэма. Шэраг апавяданняў пераклалі на рускую мову. "Отечественные записки" надрукавалі адметнае апавяданне "Сруль з Лабартова". У творы -- тая ж туга па радзіме ў душы яўрэя.

У 1899 годзе ў зборніку "Праўда", які быў прысвечаны А.Свентахоўскаму, упершыню надрукаваны фрагменты запісанай Шыманскім якуцкай казкі "Юрдзюк Устук Ус". Цікава, што ў гэтым жа зборніку з артыкулам пра якуцкую песенную культуру выступіў і Вацлаў Серашэўскі. Цалкам жа казка пабачыла свет у газеце "Czas". Асобнай кніжкай выдадзена ў Кракаве ў 1910 годзе. Тады ж "Ярославские зарницы" змясцілі ў апрацоўцы А.Шыманскага якуцкую легенду "Як Бог сатварыў чалавека".

Вядомы факт з гісторыі беларускай літаратуры -- публікацыя ў "Нашай ніве" за 1909 год (22 кастрычніка) артыкула Сяргея Палуяна "Якуцкі нацыянальны рух". Праз два месяцы артыкул на гэтую ж тэму змяшчае газета "Czas". Даследчыкі лічаць, што публікацыя належыць пяру А.Шыманскага.

Памёр наш суродзіч з калісьці беларускага Падляшша ў 1919 годзе. Яшчэ раней памерла Надзея Смецкая.

У некралогу, прысвечаным Шыманскаму, у "Русских ведомостях" польскі крытык Л.Казлоўскі напісаў: "Адам Шыманскі адразу запаланіў чытача і новымі малюнкамі прыроды Сібіры, у каторай... загінула гэтульки палякаў, і новымі вобразамі польскіх выгнаннікаў...

Як гэтак магло здарыцца, што ўсім вядомы польскі пісьменнік прыехаў у Маскву і ў мясцовай польскай калоніі ніхто не ведаў пра гэта? Я гэтага не ведаю, але ўпэўнены, што такое магло здарыцца з адным Шыманскім, з гэтым загадкавым і маўклівым госцем польскай літаратуры"...

**Алесь БАРКОЎСКІ,**
**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# СЦЭНА — ЯЕ ЖЫЦЦЁ





**Адкрыццё 76-га сезона ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы і бенефіс народнай артысткі Беларусі Зінаіды Браварскай адбыліся амаль адначасова.**

**Беларускі глядач упершыню ўбачыў Зінаіду Іванаўну ў далёкім трывожным 37-м. З таго часу яна пакідала родную купалаўскую сцэну толькі раз -- каб стаць актрысай франтавога тэатра "Агеньчык".**

**Гавораць, такая адданасць тэатру, прага творчасці, імкненне аддаць усяго сябе сцэне, гледачу ўласцівыя толькі акцёрам старой школы. Здаўна для бенефісу юбіляр сам выбіраў п'есу. Але сёння тэатр не песціць артыстаў ролямі -- і не толькі народных... "Смех лангусты" на купалаўскай сцэне ўжо шэсць гадоў. І ўсё ж лёс вялікай Сары Бернар -- гераіні спектакля -- так блізкі Браварскай.**

**Яе жыццёвы прынцып -- ні мінуты прастою. Каля трыццаці гадоў аддадзена педагагічнай рабоце. Вучні Зінаіды Іванаўны -- ва ўсіх трупах, не толькі ў сталіцы.**

**На любой прэм'еры, выставе, канцэрце можна бачыць гэтую энергічную, неабыякавую жанчыну. А сцэна купалаўскага тэатра для Зінаіды Браварскай -- яе любоў, шчасце, жыццё.**

**НА ЗДЫМКАХ: купалаўскі тэатр у свой 76-ты сезон; Зінаіду БРАВАРСКУЮ з пачаткам чарговага сезона віншуе дырэктар тэатра Іван ВАШКЕВІЧ.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

## ПАГАДНЕННІ



**У Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь адбылося падпісанне беларуска-італьянскіх пагадненняў.**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

Знайсці па-сапраўднаму добрую, карысную кнігу для дзяцей і юнацтва -- задача нялёгкая, тым больш, калі хочацца пазнаць праўдзівую гісторыю, справядлівае асэнсаванне подзвігаў абаронцаў нашай Радзімы.

Выдавецтва "Юнацтва" на працягу некалькіх гадоў радуе чытачоў выданнямі якраз такога накірунку.

Першая кніга "Бацькаўшчыны" выйшла ў 1990 годзе. Там былі такія творы: "На шляху з варагаў у грэкі", "У імя дзяцей", "Падуанскі універсітэт" Я. Дылы, "Сівая легенда" і "Ладдзя роспачы" У. Караткевіча.

Другі раз зборнік гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына" выйшаў да 100-годдзя класіка нашай літаратуры Максіма Багдановіча ў 1992 годзе. Яго жыццё-подзвіг адлюстроўвалі наступныя творы: аповесць В. Мікуліча "Развітанне", эсэ М. Стральцова "Загадка Багдановіча", успаміны беларускай пісьменніцы Зоські Верас.

Чарговае з'яўленне зборніка стала магчымым толькі ў 1994 годзе. Змест кнігі складзены па каляндарнаму прынцыпу: яна ўзнаўляла найбольш важныя даты, на якія так багатая наша гісторыя і якія прыпадалі менавіта на той год. У ёй былі творы Янкі Купалы, У. Караткевіча, В. Адамчыка, В. Іпатавай, У. Арлова, Ф. Багушэвіча, К. Каліноўскага, М. Гарэцкага, Я. Сіпакова, Зоські Верас, В. Быкава, І. Дварчаніна...

Чарговы зборнік гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына" з'явіўся сёлета напярэдадні Дня вызвалення горада Мінска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Падзеям Вялікай Айчыннай вайны прысвечаны цэлы раздзел кнігі.

**З нагоды выхаду чацвёртага зборніка "Бацькаўшчыны" я ўзяла інтэрв'ю ў загадчыка рэдакцыі літаратуры для дзяцей сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту выдавецтва "Юнацтва" Уладзіміра МАРУКА.**

*-- Уладзімір Антонавіч! Якія кнігі выйшлі за апошні час у вашай рэдакцыі, што плануецца?*

-- Не так шмат выходзіць у нас кніг. Калі сказаць папраўдзе, фінансавае становішча нашага выдавецтва, іншых дзяржаўных выдавецтваў цяжкае. Цэны на кнігі высокія. Тым не менш сёлета выйшлі творы І. Шамякіна "Сэрца на далоні", І. Навуменкі "Сорак трэці", Г. Далідовіча "Гаспадар-камень"... А таксама кнігі замежных аўтараў у перакладзе на беларускую мову — Элаізы Ажэшка, Адама Міцкевіча, Эрнэста Хемінгуэя...

На трылогію Івана Сяркова "Мы з Санькам..." мы атрымалі неблагія заказы ад бібліятэк і ўжо выдалі том.

*-- Давайце вернемся да зборніка "Бацькаўшчына". Я ведаю, што на самым пачатку планавалася выдаваць кнігі "Бацькаўшчыны" штогоднікамі, а зараз так не атрымліваецца. Чым выкліканы такія змены?*

-- Усё тымі ж фінансавымі цяжкасцямі, бо, каб выдаць кніжку, патрэбны мільёны, а грошай гэтых у выдавецтва няма.

*-- У чым каштоўнасць зборніка "Бацькаўшчына"?*

-- Там сабраны рэдкія і цікавыя матэрыялы па гісторыі Беларусі. Скажам, вось гэты зборнік "Бацькаўшчына", які выйшаў сёлета, тэматычны, расказвае пра вайсковую славу нашай Радзімы. Але "Бацькаўшчына" не адзіная кніга, якая выходзіць у нашай рэдакцыі і асвятляе гістарычную тэматыку. Нядаўна мы падрыхтавалі да друку і здалі новы гістарычны раман І. Шамякіна "Вялікая княгіня", гістарычны раман Г. Далідовіча "Кліч роднага звону". А. Марціновіч напісаў кнігу пра славутых людзей Беларусі "Зерне да зерня". Ёсць творы гісторыка-прыгодніцкія маладзейшых аўтараў: А. Якімовіча "Пастка для пярэвратня", Ю. Татарынава "Чарадзейныя яблыкі".

**Сёлетні выпуск "Бацькаўшчыны" прысвечаны ратным подзвігам нашых продкаў. Зборнік заканчваецца творамі аб апошняй вайне, у якой Беларусь страціла тры з паловай мільёны чалавечых жыццяў. Пра змест кнігі больш падрабязна расказвае яе укладальнік пісьменнік Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

-- Хай нашы чытачы знаёмяцца з гісторыяй не толькі па падручніках, а і з мастацкай літаратуры. І гэты том "Бацькаўшчыны" -- якраз пра ваяцкія справы, пра нашу змагарную гісторыю. Пададзены творы не толькі фальклорныя -- рэкруцкія, ваяцкія, партызанскія песні, але і "Летапіс вялікіх князёў літоўскіх", творы М. Багдановіча, А. Наўроцкага, М. Гусоўскага, У. Караткевіча, Н. Арсенневай, Якуба Коласа, Янкі Купалы. У раздзеле "Паклянёмся любіць наш край" прадстаўлены Кузьма Чорны, Змітрок Бядуля, Л. Гаўрылаў, А. Коршак, М. Сурначоў, З. Астапенка.

Гатовы чарговы зборнік гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына". Ён прысвечаны Полацкай зямлі і пачынаецца старонкамі Полацкага летапісу, тэкстамі граматаў — віцебскіх, смаленскіх, полацкіх -- той старадаўняй пошты, якую адпраўлялі нашы продкі ў Рыгу, на Гоцкі бераг...

**Рэдактар зборніка "Бацькаўшчына" Лілія ЦЯЛЯК расказвае:**

-- Гэты зборнік спецыфічны, таму што складальнік стараецца ахапіць вельмі шырокую літаратурную прастору: ад "Летапісу вялікіх князёў літоўскіх" да літаратуры сённяшняй. Зборнік ставіць сваёй мэтай як мага бліжэй пазнаёміць і, у першую чаргу юнага чытача, з гісторыяй нашага народа. Я думаю, што кніга вельмі ўдала гэта робіць. Тут прадстаўлены розныя жанры літаратуры: паэзія, дакументальная і мастацкая проза. Дарэчы, летапісныя тэксты даюцца ў перакладзе Вячаслава Чамярыцкага. Ну а наконт адрасата: для каго гэтая кніжка? Канешне, адрасуецца яна юнаму чытачу, але зацікавіцца ёю і дарослыя. Тут вельмі карысны матэрыял і для настаўнікаў. Я лічу, што такая кніга -- проста знаходка для школы...

**Мне захацелася пазнаёміцца з даследчыкам гістарычнай спадчыны, перакладчыкам твораў старажытнай літаратуры на сучасную беларускую мову, даўнім сябрам і супрацоўнікам выдавецтва "Юнацтва" Вячаславам ЧАМЯРЫЦКІМ.**

*ЧАЦВЁРТЫ ЗБОРНІК "БАЦЬКАЎШЧЫНЫ"*

# ЦАНА ВОЛІ І СЛАВЫ

-- Я вельмі задаволены гэтым выданнем, -- сказаў ён, -- асабліва апошнім выпускам, які ў мяне на стале... Бо гэты зборнік тэматычны, прысвечаны выключна гісторыі нашай бацькаўшчыны. Ён дапамагае зазірнуць у нашу тысячагадовую даўніну з годнасцю і надзеяй. Мы бачым, колькі за нашымі плячыма мужнай гісторыі. Гэта дапаможа адчуць, хто мы такія, дзеля чаго жывём. Наша гісторыя надзвычай багатая асобамі, якія стваралі нашу дзяржаўнасць, закладвалі падмурак нашай будучыні, і мы павінны іх ведаць.

Мы не выпадковыя людзі на сваёй зямлі: наш народ -- годны еўрапейскі народ, які павінен выйсці на вялікі стваральны шлях. Таму неабходна рыхтаваць маладое пакаленне, якое не будзе абыякавым, інфантыльным...

*-- Вячаслаў Антонавіч, вы ў гэтым зборніку выступаеце як перакладчык "Летапісу вялікіх князёў літоўскіх". Мне здаецца, што гісторыя ўспрымаецца менавіта з такіх твораў, якія ўключаюць літаратурную мастацкую афарбоўку, і дзеці больш ахвотна будуць вывучаць гісторыю праз такія зборнікі.*

-- Гэта адзін з першых летапісаў, напісаны на беларускай мове і складзены пры князі Вітаўце каля 1430 года. Гэта агульнадзяржаўны летапіс, у якім апавядаецца ў эмацыянальнай, займальнай форме пра гісторыю Літвы, Беларусі XIV--XV стагоддзяў, гісторыю, якая выкладзена дакументальна і белетрыстычна. Мы праз летапіс зможам адчуць водар, подых нашай мінуўшчыны, пачуць голас продкаў, якія змагаліся за тое, каб пабудаваць магутную дзяржаву, непасрэднымі спадчыннікамі якой мы з'яўляемся...

Ну вось і адбылася невялічкая прэзентацыя чацвёртага зборніка гістарычнай літаратуры "Бацькаўшчына". Хочацца спадзявацца, што ў пантэоне воінскай доблесці беларусаў юнае пакаленне нашай дзяржавы спасцігне цану волі і славы.

Прыходзяць на памяць вядомыя купалаўскія радкі:

**Падымайся з нізін,**
**сакаліна сям'я,**
**Над крыжамі бацькоў;**
**над нягодамі;**
**Занімай, Беларусь**
**маладая мая,**
**Свой пачэсны пасад**
**між народамі!..**

**Вераніка ПАНІЗЬНІК.**

# ПРЫГАЖОСЦЬ АД ПРЫРОДЫ





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Вялікую цікавасць выклікаюць работы майстра Мікалая Калакольцава. Яго карціны ўражваюць тонкім мастацкім густам і філіграннай тэхнікай. Тут усё здаецца сапраўдным: вёска, птушкі, жывёліны, трава -- нібыта мастак баяўся ўзяць фальшывую ноту. Міжволі напрошваецца думка: як жа трэба любіць родную прыроду і тонка яе адчуваць, каб так хвалююча і натхнёна апець яе мілую і простую прыгажосць. У родных мясцінах, у наваколлі гарадскога пасёлка Глыбокае Віцебскай вобласці, знайшоў майстар не толькі матывы, але і матэрыял для сваіх унікальных твораў -- падатлівую на разец і шчодрую на прыгажосць ліпу.

Мінчанін Уладзімір Цяслюк працуе па дрэву ў тэхніцы інтарсія. Яго творы -- пейзажы, старадаўнія архітэктурныя помнікі Беларусі -- прыцягваюць увагу не толькі тым, што захоўваюць у сабе рэальныя ўражанні штодзённасці, вяртаюць нас да нашых вытокаў, але і дасканалай тэхнікай выканання.

Драўляныя скульптуры вядомага майстра Сямёна Шаўрова пранізаны радасцю, гумарам, захапленнем духоўным багаццем і жыццёвай мудрасцю простага народа. Майстар -- знаўца беларускага народнага характару. Яго вобразы дынамічныя, індывідуальныя, пазнавальныя. Работы Шаўрова ўпрыгожваюць плошчы Гродна, Брэста. Яны вядомыя аматарам мастацтва Канады, Францыі, Германіі, Аўстрыі, Бельгіі і іншых краін. У Оршы ёсць музей драўлянай скульптуры яго імя.

Работы Сяргея Пірожніка выкананы ў розных жанрах і рознай тэхнікай: інтарсія, разьба, чаканка, але ўсе іх аб'ядноўвае глыбокае веданне матэрыялу і вялікае захапленне беларускай прыродай. Ён цэніць усялякую часцінку быцця, прыслухоўваецца да свайго ўнутранага голасу, адчувае душу дрэва, якое ярка гучыць у афармленні жылля, ва ўпрыгажэнні гарадскога быту. Разны кабінетны прыбор майстар выканаў з моранага дубу, які праляжаў у балоце ў Гродзенскай вобласці больш за сто гадоў. Гэтая работа не толькі прыгожая сама па сабе, але і вызначаецца высокім мастацкім стылем. Работы майстра вядомыя ў Англіі, Арабскіх Эміратах.

На выставе прадстаўлены ўзоры і чыста традыцыйных народных промыслаў. Пано работы Гагалушка Таццяны выкананы традыцыйным стылем інкрустацыі саломкай. Тэмы роспісу па дрэву велікодных яек работы Генадзя Майстрова ўражваюць глыбінёй філасофскіх пошукаў майстра ў спасціжэнні вышэйшых сіл існага. Яго фантасмагарычныя вобразы патрабуюць з боку гледачоў не толькі ўвагі, але і асэнсавання.

Выдатны мастацкі роспіс і перламутравая інкрустацыя ў работах Юрыя Сяргея (гарадскі пасёлак Шчучын Гродзенскай вобласці). Нікога не пакідаюць абыякавымі арыгінальныя карціны Тамары Багданавай "Сланечнікі" і "Званы Хатыні", выкананыя ў тэхніцы мастацкай вышыўкі. Майстар тлумачыць свет з дапамогай умоўна вобразных пабудоў. Хто мы, што мы ў гэтым свеце, якія нашы вытокі, што абяцае будучыня, -- гэтыя спрадвечныя пытанні хвалююць аўтара і патрабуюць адказу. Попел Хатыні і боль Чарнобыля нямым дакорам звяртаюцца да нас. Што будзе з радзімай і з намі, ці дажывем да лепшага жыцця і як любіць краіну нават тады, калі яна для цябе -- мачаха.

Лялькі Алены Катляровай і Людмілы Санберг з беларускімі народнымі характарамі. Напэўна таму вясковы дзед работы А.Катляровай успрымаецца такім жывым з яго мужыцкай кемлівасцю і наіўнай даверлівасцю, а ў кампазіцыі "Купалле" нібыта чуецца водгулле народных песень. Л.Санберг прадставіла на выставу кампазіцыі "Беларускі народны ансамбль", персанажы першай беларускай оперы XVIII стагоддзя "Агатка".

Сустрэча з прыгожым для аматараў народнай творчасці -- заўсёды свята. Наш патрабавальны сталічны глядач убачыў на выставе шырокі дыяпазон мастацкіх індывідуальнасцей, неардынарныя творы майстроў, кожны з якіх яркі і самабытны ў мастацкіх спасціжэннях свету і чалавека ў ім. Нягледзячы на тое, што ўсе яны па-рознаму адлюстроўваюць свет з уласцівымі кожнаму тэмпераментам і талентам, іх аб'ядноўвае зайздроснае ўменне пранікацца радасцямі жыцця, натхнёна апяваць любоў да роднай краіны, яе прыроды і людзей, абуджаць у чалавеку лепшыя, высакародныя пачуцці.





У нас іншы раз любяць гаварыць дэмагагічныя прамовы аб неабходнасці падтрымкі народных талентаў і пры гэтым нічога не рабіць, каб гэтыя таленты падтрымаць, чаго нельга сказаць аб Доме народных традыцый. Яго кіраўнік Ларыса Шыршова прыклала нямала намаганняў, каб аб'яднаць творчыя сілы. Два гады існуе гэтая грамадская арганізацыя, а колькі добрага і карыснага зроблена за гэты час: выставы на ВДНГ, у Палацы спорту, святы народнай творчасці, выставы дабрачынныя, тэматычныя.

Яшчэ не паспела закрыцца выстава "Беларускае дрэва", як Л.Шыршова ўжо марыць аб новай, на якой былі б прадстаўлены вырабы чыста жаночых рамёстваў і промыслаў. Кожны ведае, як цёпла душы ў доме, дзе ўтульнасць ствараецца рукамі жанчыны -- майстрыхі з багатай душой і залатымі рукамі, з фантазіяй і ўяўленнямі. І няхай памнажаюцца шэрагі сяброў і прыхільнікаў народных талентаў -- нашага неацэннага нацыянальнага багацця.

**Людміла САНБЕРГ.**

*У БЕЛАРУСАЎ ЛАТВІІ*

# НА РАЙНІСАЎСКІХ ДНЯХ

З 16 па 18 верасня ў Даўгаўпілсе прайшлі чарговыя штогодныя Дні паэзіі, прымеркаваныя да дня нараджэння класіка латышскай літаратуры Яна Райніса. З 1991 года ў гэтым паэтычным свяце прымае ўдзел і славянская секцыя літаб'яднання горада, сярод членаў якога -- аўтар гэтых радкоў. Ужо пяты раз напярэдадні Дзён паэзіі выйшаў паэтычны штогоднік, дзе змешчаны вершы на латышскай, латгальскай, рускай і беларускай мовах. (У адным з іх былі надрукаваны вершы і на польскай мове). Добры крытычны водгук аб паэтычным штогодніку за мінулы год з'явіўся нядаўна невялікім асобным выданнем, аўтар якога -- доктар філалогіі Леанід Цылевіч.

У сёлетніх даўгаўпілскіх Днях паэзіі прынялі ўдзел госці з Рыгі: рэдактар часопіса "Карогс" латышская паэтэса Марытэ Залітэ, латышскі паэт, ураджэнец Латгаліі (край у Латвіі) Андрыс Веянс, а таксама госць з Мінска старшыня таварыства дружбы "Беларусь--Латвія" паэт Сяргей Панізьнік.

У першы дзень удзельнікі паэтычнага свята наведалі радзіму Райніса ў Тадэнаве, а назаўтра правялі гадзіну паэзіі ля яго помніка каля даўгаўпілскага універсітэта, дзе ўсклалі кветкі. Кветкі былі таксама ўскладзены ля помніка Андрэю Пумпуру, аўтару знакамітага латышскага эпасу "Лачплесіс", і на магілу бацькі Райніса Крыш'яна Плiекшана.

На працягу астатняга часу паэты правялі ўрокі паэзіі ў школах горада і раёна, прынялі ўдзел у паэтычным вечары ў Цэнтры рускай культуры. На ім спадар Панізьнік не толькі прачытаў свае вершы, а і пазнаёміў прысутных з кнігай Эдварда Вайвадзіша, старэйшага беларускага паэта, жыхара суседняга з Даўгаўпілсам Краслаўскага раёна Латвіі, якому ў наступным годзе споўніцца 100 гадоў. Кніга нядаўна выйшла ў выдавецтве навукова-асветніцкага цэнтра імя Ф.Скарыны.

У мясцовай газеце "Латгалес Лайкс", дзе з рэдактарам гэтага выдання латгальскай паэтэсай Ганнай Ранцане і карэспандэнтам беларусам В. Самахвалавым сустрэліся С.Панізьнік, а таксама сябар таварыства дружбы "Латвія -- Беларусь", дырэктар даўгаўпілскай раённай бібліятэкі Я. Іофе і аўтар гэтых радкоў. Газета "Латгалес Лайкс" прадаставіла тутэйшым беларусам магчымасць раз у квартал выпускаць сваю старонку на роднай мове, якая выйдзе пад назвай "Беларус Латгаліі".

**Станіслаў ВАЛОДЗЬКА.**

г. Даўгаўпілс.


Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск".
Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1047.
Падпісана да друку 7. 10. 1996 г. у 12.00 .
Рэгістрацыйнае пасведчанне N 81.